9 чэрвеня 2017 | № 22 (536)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

«Страху няма, маўчаць мы не будзем»
стар. 5

4 ПАРАЛЕЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ: ТЭХНАЛОГІІ Ў ДАПАМОГУ



6–7 МОСТ ПАМІЖ ДАНБАСАМ І ГАЛІЧЫНАЙ – РЭАЛЬНАСЦЬ ЦІ МІФ?

«Будуем Украіну разам» — нестандартная ініцыятыва, разлічаная на камунікацыю паміж усходнікамі і заходнікамі, што мае стаць падмуркам для еднасці краіны

8 СПЯКОТНАЕ ЛЕТА 1967-ГА




10 З ЧАГО СМЯЯЛІСЯ Ў ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ?

Заходнебеларуская міжваенная карыкатура — гэта ўнікальная з'ява, зрэшты, як і ўсё культурнае жыццё рэгіёну ў 1920–1930-я гады

# Штосьці не так са «справай патрыётаў»

## Ці будзе працяг прапагандысцкага «Белага легіёну чорных душаў»?



Сяргей ПУЛЬША

Фігуранты «справы патрыётаў» пакрысе выходзяць на волю. Што б гэта значыла? Чым і калі можа скончыцца справа?

Як вядома, нядаўна кіраўніка бабруйскага клуба «Патрыёт» Мікалая Міхалькова і яго сына Яна выпусцілі з пад варты і знялі абвінавачванні. Міхалькоў вярнуўся на працу ў клуб «Спадарожнік», часткай якога ёсць вайскова-спартовы клуб «Патрыёт», — то бок зноў працуе з дзецьмі. Неяк дзіўна, з улікам абвінавачванняў, якія прад'яўляліся Міхалькову.

Больш за тое, працягне сваю дзейнасць лясны намётавы лагер «Брыганціна», дзе праходзілі летнікі «Патрыёта», — па меркаванні экспертаў, менавіта яго меў на ўвазе Лукашэнка, калі казаў пра «лагер баевікоў у лясах пад Асіповічамі». Цяпер супрацоўнікі лагера занятыя папаўненнем тэхнічнай базы.

Звязана гэта з арыштам Міхалькова альбо не, але раней у лагер прыязджалі па 20 падлеткаў, сёлета чакаецца 35.

Выпушчаны на волю пад падпіску аб нявыездзе «кіроўца Статкевіча» Сяргей Кунцэвіч, у машыне якога, нібыта, знайшлі скрыні з «кактэйлямі Молатава». Ён заявіў пра катаванні электрашокерам падчас затрымання. Такім чынам спецслужбоўцы спрабавалі высветліць, дзе напярэдадні 25 сакавіка хаваецца Мікалай Статкевіч. Але зноў жа заўважым: мэта катаванняў была, як бы цынічна гэта ні гучала, «утылітарная» і са «справай патрыётаў» нічога агульнага не мае.

Таксама пад падпіску аб нявыездзе з СІЗА КДБ вызвалены мастак-дызайнер Андрэй Бяляўскі. Ён, наадварот, кажа, што да яго следчыя ставіліся «як да астатніх вязняў, і нават з павагай», а пасля вызвалення дапамаглі дабрацца дадому.

Аднак разам з тым, на допыт была выкліканая жонка затрыманага па «справе патрыётаў» Андрэя Дундукова Ганна, якая адмовілася ад дачы паказанняў. Па словах жанчыны, «усё прайшло добра, хутка, ставіліся вельмі прыязна».

Таксама вядома, што на допыт выклікаюць і іншых родных затрыманых, але шмат хто не хоча гэта паведамляць у СМІ, каб, маўляў, не нашкодзіць.

На думку прадстаўніцы сем'яў фігурантаў «справы патрыётаў» Ніны Шыдлоўскай, выклік для дачы паказанняў родзічаў абвінавачаных сведчыць пра тое, што доказная база па падрыхтоўцы масавых беспарадкаў і ўдзелу затрыманых у нейкіх незаконных узброеных фармаваннях не сабраная. Таму следчыя спрабуюць хоць нешта атрымаць з паказанняў родных.

Але спыніць гэтую машыну аднамомантна немагчыма. Таму некаторым фігурантам гэтай справы тэрміны ўтрымання пад вартай працягнутыя — каму на два, каму на чатыры месяцы.

Па стане на 5 чэрвеня за кратамі застаюцца 14 фігурантаў «справы патрыётаў». З СІЗА па той жа справе выйшлі 18 чалавек.

У сувязі з гэтым узнікаюць законныя пытанні: якія ёсць перспектывы ў гэтай справы? Ці дойдзе яна да суда ўвогуле?

Вядомы ў Беларусі юрыст і праваабаронца Гары Паганяйла настроены аптымістычна.




Канешне, ён заўважае, што з юрыдычнага пункту гледжання ацаніць «справу патрыётаў» няма магчымасці. «Для юрыдычнай ацэнкі мы ведаем занадта мала. Мы не ведаем, якія падзеі і факты леглі ў аснову прад'яўленых абвінавачванняў, якія падлягалі ацэнцы з пункту гледжання Крымінальнага кодэкса, наколькі яна была абгрунтавана і законна ўзбуджана», — адзначыў Паганяйла.

Што тычыцца перспектывы справы, то, паводле меркавання юрыста, сённяшнія дзеянні ўладаў пацвярджаюць яе палітызаванасць. «Зараз дзеянні ўладаў паказваюць, што тады трэба было напалохаць, паралізаваць патрыятычную дзейнасць так званых «экстрэмістаў», хаця ніякага экстрэмізму ў патрыятычных дзеяннях не было і няма. Таму пакрысе справа спускаецца на тармазах. Людзей, вызваляюць, камусьці справу скасоўваюць, кагосьці выпускаюць пад падпіску. Я мяркую, што яна плаўна з'едзе на той жа нуль, з якога яна пачыналася», — лічыць Гары Паганяйла.

У прынцыпе, зразумела, што «справа патрыётаў» — не проста палітызаваная, а палітычная цалкам. Дастаткова ўзгадаць, што затрыманні яе фігурантаў пачаліся толькі пасля таго, як Лукашэнка абвясціў пра «выкрытую арганізацыю баевікоў». То бок, спецслужбы стварылі гэтую справу «пад заказ» кіраўніка дзяржавы. А вялікая ўвага да яе з боку дзяржаўнай прапаганды расцэньвалася як спроба збіць пратэстны настрой «недармаедаў», які ўскалыхнуў беларускае грамадства. Зараз пратэсты скончыліся, і фігуранты справы за кратамі — без патрэбы.

Але тое, што патрыётаў працягваюць трымаць за кратамі, а некаторым з іх тэрмін утрымання працягнуты аж да верасня, засмучае. Відавочна, што ўвосень, калі грамадства выйдзе з адпачынкаў і садова-дачнага сезону, пратэстныя настроі ўзмоцняцца. І паказальны працэс над нібыта «экстрэмістамі» можа быць яшчэ адной спробай збіцця гэтых настрояў. Прынамсі, з суда беларуская прапаганда зноў можа рабіць «карцінку» пра тых, хто разгойдвае лодку стабільнасці сінявокай Беларусі.

Прапагандысцкі фільм БТ «Белы Легіён чорных душаў» атрымае працяг?

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### Брэст: 500 метраў без тытуню



**Актывісты кампаніі «За наш горад» унеслі шэраг прапаноў на заканадаўчым узроўні, якія накіраваны на стварэнне шырокіх зон «без тытуню».**

Ініцыятывы былі ўнесеныя імі ў ходзе грамадскага абмеркавання праекта дэкрэта «Аб дзяржаўным рэгуляванні абароту тытунёвых вырабаў і электронных сістэм курэння».

«Мы лічым, што спецыялізаваныя гандлёвыя аб'екты па продажы тытунёвых вырабаў павінны размяшчацца на адлегласці не менш за 500 метраў ад будынкаў арганізацый аховы здароўя, культуры, адукацыі, спецыялізаваных гандлёвых аб'ектаў па рэалізацыі тытунёвых вырабаў. Слова «Тытунь» і вытворныя ад яго, якія з'яўляюцца непасрэднай рэкламай тытунёвых вырабаў, варта выключыць з пераліку назваў гандлёвых аб'ектаў. На наш погляд, падобная практыка рэалізацыі тытунёвай прадукцыі, дыскрэдытуе ідэю здаровага ладу жыцця і зводзіць на нішто ўсе папярэднія станоўчыя вынікі дзяржавы, накіраваныя на зніжэнне ўзроўню спажывання тытуню», — пракаментавала сітуацыю ініцыятар звароту Ганна Канюс.

**Паводле прэс-службы кампаніі «За наш горад»**

### МАЛАДЗЕЧНА. Збор подпісаў за беларускамоўныя класы



**Сябры БХД і Маладыя хрысціянскія дэмакраты збіраюць подпісы за тое, каб у заяву пры пастаноўцы на ўлік у дзіцячы садок уключыць выбар мовы навучання, а таксама за стварэнне і наяўнасць у кожным садку і школе беларускамоўных груп і класаў.**

Згодна з артыкулам 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, дзяржаўнымі мовамі з'яўляюцца беларуская і руская. У адпаведнасці з артыкулам 50 Канстытуцыі, дзяржава гарантуе выбар мовы выхавання і навучання, а згодна з артыкулам 90 Кодэкса «Аб адукацыі», дзяржава павінна ствараць умовы для рэалізацыі гэтага права, у тым ліку забяспечваць развіццё сетак устаноў адукацыі (класаў, груп, патокаў) з беларускай і рускай мовамі навучання і выхавання, выданнем літаратуры, падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў на беларускай і рускай мовах.

«Аднак на практыцы гэта канстытуцыйнае права грамадзян Беларусі груба парушаецца. Гэта відавочна па вельмі малой колькасці беларускамоўных груп у дзіцячых садках і школах. У 2009 годзе ЮНЭСКА ўнесла беларускую мову ў спіс моваў, якім пагражае знікненне», — падкрэсліў каардынатар БХД у Маладзечна Раман Ганчароў.

**Паводле bchd.info**

### Слуцк. Парушэнні ў ІЧУ часткова мелі месца



**Пракуратура Слуцкага раёна адрэагавала на скаргу журналіста рэгіянальнай газеты «Інфа-Кур'ер» Сержука Кійко на ўмовы ўтрымання ў ІЧУ Слуцкага РАУС.**

«У выніку праведзенай пракуратурай Слуцкага раёна праверкі ў ІЧУ ўстаноўлены парушэнні заканадаўства аб матэрыяльна-бытавым забеспячэнні адміністратыўна арыштаваных, у тым ліку і парушэнні, якія пададзеныя ў скаргах. Вынесена прадпісанне аб выпраўленні парушэнняў заканадаўства», — адказаў журналісту намеснік пракурора Слуцкага раёна І. Слука.

У мясцовым ізалятары часовага ўтрымання Кійко знаходзіўся з 3 па 6 красавіка пасля пераводу з Жодзінскага СІЗА, адбываючы частку адміністратыўнага арышту за ўдзел у акцыі пратэсту на Дзень Волі ў Мінску.

Яшчэ адзін зварот Сержука Кійко быў разгледжаны ў Рэспубліканскім цэнтры гігіены і эпідэміялогіі Дэпартаменту фінансаў і тылу МУС. Было вынесенае заключэнне, што факты парушэнняў, пра якія вялася гаворка ў звароце, часткова мелі месца. Кіраўніцтву ІЧУ былі дадзены прапановы па іх выкараненні і ўзмацненні кантролю за захаваннем санітарна-эпідэміялагічных патрабаванняў.

І толькі Слуцкі РАУС прыйшоў да высновы, што «недахопаў у матэрыяльна-бытавым і санітарна-гігіенічным забеспячэнні адміністратыўна арыштаваных не было», а «факты, выкладзеныя ў скарзе на парадак і ўмовы ўтрымання ў ІЧУ Слуцкага РУУС, не знайшлі свайго пацвярджэння».

**Паводле spring96.org**

# Рарытэтныя кветкі для палітвязняў

Ніна БАГІНСКАЯ

**Давайце патрымаем патрыётаў. Дасылайце ім лісты і паштоўкі.**



Я была на талацэ ў Курапатах 3 чэрвеня: прыводзілі да ладу кветнікі ля некаторых крыжоў. Напярэдадні атрымала «Новы Час» са спісам палітзняволеных і прапаноўваю іх падтрымаць — дасылаць паштоўкі з кветкамі...

На заўтра было свята Троіцы — сёмая нядзеля ад Вялікадня. Народ называе гэтую нядзелю яшчэ і «зялёным святам». У гэты дзень збіраюць розныя зёлкі — кветкі і травы лічацца гаючымі. І я вырашыла даслаць зняволеным паштоўкі з выявамі кветак — няхай яны парадуюць іхнія вочы. Як не падтрымаць палітзняволеных?

У свой час па маладосці я збірала калекцыю паштовак з выявамі кветак, птушак, жывёлаў. Дык падабрала паштоўкі-рарытэты, каб год з'яўлення паштоўкі супадаў з годам нараджэння палітвязня. Пісала прыкладна такі тэкст: «У год, як Міраслаў нарадзіўся, — гэтая паштоўка з'явілася — 1973». (Маецца на ўвазе фігурант «справы патрыётаў Міраслаў Лазоўскі. — НЧ).

Калі не знаходзілася паштоўка з адпаведным годам, падпісвала паштоўку з выявай кветкі — ружы. Бо ружа — самая дасканалая і прыгожая кветка, да таго ж з'яўляецца хрысціянскім сімвалам.

Ружа чырвоная — сімвал кропляў крыві, праліта́й Хрыстом на крыжы. «Містычная ружа» — так называюць святую Дзеву Марыю. У Сярэднявеччы Божую Маці нярэдка малявалі ў атачэнні ружаў, паколькі гэтая кветка — яе сімвал, сімвал душы, сэрца, любові, таямніцы.

А мая сяброўка Людміла Міцкевіч падаравала на гэтыя рарытэтныя паштоўкі такія ж рарытэтныя маркі — з выявай гербу «Пагоня» зялёнага колеру, як сімвал «зялёнай нядзелі».

Усе гэтыя паштоўкі я і адправіла палітвязням.

*Ад рэдакцыі. Тое, што зрабіла Ніна Багінская, — сапраўдны бескарыслівы подзвіг. Варта адзначыць, што савецкія рарытэтныя паштоўкі на інтэрнэт-аўкцыёнах каштуюць каля 5 рублёў за штуку.*

Адрасы зняволеных:

- Абрамаў Аляксей Анатольевіч 220050, Мінск, Галоўпаштамт, а/с 8
- Данілаў Віктар Канстанцінавіч 220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2
- Дундукоў Андрэй Вячаслававіч 220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2
- Зімніцкі Аляксандр Антонавіч 220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2
- Кавальчук Іван Віктаравіч 220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2
- Комлік-Ямацін Андрэй Ігаравіч 220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2
- Лазоўскі Міраслаў Уладзіміравіч 220050, Мінск, Галоўпаштамт, а/с 8
- Мароз Віктар Генадзьевіч 220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2
- Новік Дзмітрый Мікалаевіч 220050, Мінск, Галоўпаштамт, а/с 8
- Пашкевіч Цімур Вітальевіч 220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2
- Румянцаў Уладзімір Сяргеевіч 220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2
- Стрыбульскі Сяргей Сергеевіч 220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2
- Фёдараў Уладзімір Валер'евіч 220050, Мінск, Галоўпаштамт, а/с 8
- Яўдаха Аляксандр Анатольевіч 220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2

А таксама:

- Зміцер Паліенка 213800, Магілёўская вобласць, г. Бабруйск, вул. Сікорскага, 1, ПК-2, атрад №9.
- Міхаіл Жамчужны 231900, Гродзенская вобласць, г. Ваўкавыск, вул. Ракасоўскага, 118, ПК-11.

# Тэлерадыёкампанію «Гродна» — у суд

**Старшыня гродзенскай гарадской арганізацыі партыі БНФ Вадзім Саранчукоў падаў іскавую заяву аб абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі супраць тэлерадыёкампаніі «Гродна».**

Падставай стаў прадэманстраваны 17 красавіка ў эфіры відэасюжэт «Маршем в никуда». Пасля ён быў апублікаваны на афіцыйным канале Тэлерадыёкампаніі «Гродна» на сервісе Youtube. Пры вырабе гэтага фільма не былі пазначаныя аўтары і адказныя за выпуск асобы. На момант падачы іскавай заявы колькасць праглядаў на Youtube склала больш за 9 700.

У заяве Вадзім Саранчукоў даводзіць, што распаўсюджаная ў гэтым відэафільме інфармацыя не адпавядае рэчаіснасці і зневажае яго гонар, годнасць і дзелавую рэпутацыю.

У прыватнасці, заяўнік піша: «У фільме выкарыстоўваюцца кадры, якія нагадваюць аператыўную здымку сілавых органаў. З'яўленне гэтых кадраў у распараджэнні тэлерадыёкампаніі можа сведчыць пра ўцечку аператыўных матэрыялаў ад супрацоўнікаў МУС.

Выкарыстанне ў эфіры кадраў схаванай здымкі мяне з'яўляецца грубым умяшаннем у маё асабістае жыццё.

Выкарыстанне ў эфіры кадраў, на якіх знаходзіцца мой непаўнагадовы сын, без атрымання згоды яго законных прадстаўнікоў, з'яўляецца незаконным і можа пагражаць яго бяспецы.

Выкарыстанне ў фільме выразаных з кантэксту кадраў з майго выступу як кандыдата ў дэпутаты і накладанне іх на сучасныя падзеі стварае наўмысна сфальсіфікаваны вобраз і з'яўляецца абразай майго гонару.

Беспадстаўнае і хлуслівае сцвярджэнне аўтараў гэтага відэаматэрыялу, што я нібыта фіктыўна займаюся рамесніцкай дзейнасцю, наносіць шкоду маёй дзелавой рэпутацыі і з'яўляецца недапушчальным».

У межах падрыхтоўкі да справы Вадзім Саранчукоў праз суд патрабуе ад тэлерадыёкампаніі «Гродна» прадставіць інфармацыю пра журналіста, які рыхтаваў спрэчны відэасюжэт «Маршем в никуда».

Палітык просіць суд прызнаць распаўсюджаныя ў відэасюжэце «Маршем в никуда» пра яго звесткі не адпавядаючымі рэчаіснасці і зневажальнымі і абавязаць тэлерадыёкампанію «Гродна» абвергнуць іх у вячэрнім эфіры на канале «Беларусь-4».

Справу старшыні гродзенскай рады Партыі БНФ будзе разглядаць суд Ленінскага раёна Гродна. Тэрмін разгляду яшчэ не прызначаны, аднак Вадзім Саранчукоў спадзяецца, што гэта адбудзецца ў бліжэйшы месяц.

Больш за месяц таму Вадзім Саранчукоў па гэтым пытанні звяртаўся ў пракуратуру Гродзенскай вобласці. Тэрмін адказу на скаргу ў абласную пракуратуру ўжо быў вычарпаны, і актывіст не атрымаў адказу. Вадзім Саранчукоў спадзяецца, што праз суд ён атрымае адказ, хто з'яўляецца аўтарам матэрыялу, і будзе рыхтаваць далейшыя справы аб абароне свайго гонару і годнасці.

**baj.by**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Заходзьце ў госці!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Беларусы гасцінныя. Таму не дзіва, што мы прымаем з абдымкамі ўсіх. Асабліва тых, з каго зараз альбо ў перспектыве можна стрэсці грошы.**

У нашай краіне з 5 чэрвеня працуе місія Міжнароднага валютнага фонду. Яе ўзначальвае Пітэр Долман. Улады Беларусі ўжо некалькі гадоў спадзяюцца на атрыманне крэдыту ў памеры 3,5 мільярда долараў. Перамовы з МВФ працягваюцца, але выніку пакуль няма. Эксперты фонду заяўлялі пра неабходнасць правядзення структурных рэформаў беларускай эканомікі. Перш за ўсё абмяркоўваюцца пытанні ЖКГ, кампенсацыі насельніцтвам жыллёва-камунальных паслуг, павышэння эфектыўнасці кіравання дзяржпрадпрыемствамі. Цяпер гаворка пойдзе пра актуальную сітуацыю ў беларускай эканоміцы.

Але спадзявацца на тое, што мы хутка атрымаем гэтыя грошы, не варта. Па-першае, эксперты фонду, якія цяпер працуюць у Беларусі, толькі рыхтуюць прыезд больш прадстаўнічай місіі ў кастрычніку 2017 года. Па-другое, некаторыя мяркуюць, што гэты крэдыт нам увогуле не патрэбны.

Мы ўжо пісалі пра петыцыю супраць выдзялення афіцыйнаму Мінску крэдыту МВФ. Яе падпісалі 3200 чалавек, і 23 мая ініцыятар звароту Дзяніс Казакевіч перадаў дакумент прадстаўніку МВФ у Еўрапейскім Саюзе Джэфры Фрэнксу.

«Незалежна ад макраэканамічнай сітуацыі ў краіне, урад Беларусі на працягу больш чым 20 гадоў надае першарадную ўвагу фінансаванню КДБ, міліцыі, аддзелаў ідэалогіі, міжнародных спартыўных мерапрыемстваў, ваенных парадаў... Кіраўніцтва краіны паказала, што не можа праводзіць эфектыўныя эканамічныя рэформы. Такім чынам, вельмі верагодна, што новы крэдыт ад МВФ будзе зноў неэфектыўным і не дапаможа аднавіць макраэканамічную стабільнасць Беларусі», — гаворыцца ў лісце.

У дакуменце згадваюцца не толькі эмацыйна-палітычныя моманты, але і тое, што з-за выдачы крэдыту Беларусі «макраэканамічная стабільнасць у рэгіёне знізіцца». А гэта супярэчыць «фундаментальнай місіі МВФ па павелічэнні глабальнай макраэканамічнай стабільнасці», — адзначае аўтар ліста.

І яшчэ цікавы момант: Беларусь сустрэла місію эканамістаў добрай статыстыкай і стрыманым аптымізмам: паводле Белстату, за першы квартал наша эканоміка прырасла на 0,3%. І гэта, як ні дзіўна, мінус. На думку старшага аналітыка кампаніі «Альпары» ў Мінску Вадзіма Іосуба, фонд не выстаўляе ніякіх патрабаванняў па тэмпах росту эканомікі. Але, калі гаворка ідзе пра перамовы з міжнароднымі фінансавымі арганізацыямі, працуе логіка «чым горш — тым лепш». Калі ў краіне цяжкая эканамічная сітуацыя, кіраўніцтва мае патрэбу ў грошах і гатовае на ўсё, абы гэтыя грошы атрымаць. А калі эканоміка пачынае падаваць сігналы да росту, то навошта нам грошы МВФ?

Але ці не самым вырашальным фактам у гэтым пытанні будзе пазіцыя Аляксандра Рыгоравіча. Каментуючы працу папярэдняй місіі аналагічнага ўзроўню, Лукашэнка заявіў, што ўмовы МВФ накіраваныя на ўдушэнне беларускага народа. Між тым, міжнародныя структуры патрабуюць зараз гарантый правядзення рэформ «на самым высокім узроўні». І наўрад ці такія гарантыі атрымаюць.

Затое аптымізму дадае (ужо ў які раз) наша «шматвектарная» палітыка. 7 чэрвеня падпісалі пагадненне аб адкрыцці крэдытнай лініі для Беларусі кіраўнікі «Афрэксімбанка» і Банка развіцця Беларусі. Старшыня «Афрэксімбанка» Бенядзікт Арама паведаміў, што запланаваны аб'ём усёй крэдытнай лініі складзе да 800 мільёнаў долараў.

**2,7 % складзе сусветны эканамічны рост у 2017 годзе. Гэта азначае, што няма ў свеце ніякага эканамічнага крызісу. І толькі нашае кіраўніцтва сцвярджае, што крызіс — паўсюль**

«Афрыцы трэба абсталяванне, каб будаваць дарогі, масты, бальніцы, парты, электрастанцыі... У Афрыцы ёсць дэфіцыт харчовых культур, мяса, садавіны і гародніны... Наш банк упэўнены, што велізарныя вытворчыя магутнасці Беларусі ў цяжкай прамысловасці і вытворчасці трактароў — гэта магчымасць атрымаць даступныя інвестыцыйныя тавары, якія патрэбныя нашаму кантыненту для развіцця», — зазначыў Арама.

Канешне, «грошы не пахнуць». Але тое, што Афрыка адкрывае для Беларусі крэдытную лінію, як бы намякае на стан развіцця нашай эканомікі.

І на гэтым кірунку нас чакаюць вялікія складанасці. Не сакрэт, што афрыканскі кантынент у зону сваіх стратэгічных інтарэсаў уключыў Кітай. Ці здолеем мы адкусіць свой кавалак пірага ў лідара сусветнай эканомікі? Можа і не, але паспрабаваць варта.

Тым часам з міжнароднай эканамічнай пляцоўкі прыйшла яшчэ адна цікавая навіна. Сусветны банк выступіў з аптымістычным прагнозам развіцця сусветнай эканомікі. «Упершыню за апошнія чатыры гады мы не знізілі прагноз росту сусветнай кан'юнктуры, і я думаю, што гэта добры знак», — заявіў дырэктар дэпартамента вывучэння перспектыў эканамічнага развіцця Сусветнага банка Айхан Касе ў інтэрв'ю AFP.

Эксперты вашынгтонскай арганізацыі мяркуюць, што ў 2017 годзе сусветны эканамічны рост складзе 2,7%, у 2018 і 2019 гадах — 2,9%. Рашэнне пакінуць нязменным прагноз Касе патлумачыў зніжэннем рызыкаў у сусветнай эканоміцы. Пры гэтым у развітых краінах эканамічны рост у 2017 годзе паскорыцца да 1,9%. У краінах еўразоны гэты паказчык, паводле прагнозу арганізацыі, складзе 1,7%. Яшчэ ў студзені, калі быў прадстаўлены папярэдні прагноз, Сусветны банк зыходзіў з 1,5% росту ў еўразоне ў бягучым годзе.

Прагноз эканамічнага развіцця Кітая зніжаны да 6,5%. У Расіі пасля двух гадоў рэцэсіі эксперты чакаюць росту ў 1,3% у 2017 годзе і 1,4% — у 2018-м.

Што гэта азначае? Гэта азначае, што ўсе спасылкі нашага кіраўніцтва на тое, што мы дрэнна жывём, таму што ўсе дрэнна жывуць, і ў свеце эканамічны крызіс — ані каліва не вартыя. Няма ў свеце ніякага крызісу. Нават у Расіі, абкладзенай санкцыямі з ног да галавы, плануецца эканамічны рост. І толькі мы сядзім у сваёй багне. А значыць, вінаваты ў гэтай багне не сусветны крызіс, якога няма, а нешта іншае.

Ну і пра сабе забывацца не трэба. Грошы часам проста поўзаюць у нас пад нагамі. Прыемную навіну агучыў міністр прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Андрэй Каўхута. Аказваецца, за пяць гадоў Беларусь зарабіла каля 4 мільёнаў на экспарце вельмі незвычайнага прадукту. Што мы экспартавалі? Вінаградных смаўжоў!

А ўвогуле за мінулы год Беларусь экспартавала больш за 23 тысяч тон прадукцыі расліннага свету: грыбы, свежыя ягады, прадукцыю перапрацоўкі. Агульны кошт экспарту склаў каля 60 мільёнаў долараў.

І, заўважце, без усялякіх крэдытных ліній.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Мікалай Статкевіч

**Вядомы палітык і экс-кандыдат у прэзідэнты працягвае шукаць новыя спосабы і магчымасці стасункаў з народам.**



Статкевіч стварыў свой ютуб-канал, куды размясціў ужо тры відэа з развагамі на палітычныя тэмы, у адным з якіх анансаваў акцыю пратэсту ў ліпені ў Мінску.

«Мы выйдзем, каб абараніць маладых людзей, нашых дзяцей, якіх катуюць ні за што, — сказаў Мікола Статкевіч. — Мы выйдзем у дзень вызвалення, каб вызваліць сябе, вызваліць свае душы ад здрадніцтва, халуйства, ілжы. Вызвалім сябе, вызвалім краіну».

Варта зазначыць, што выкарыстанне Ютуба як палітычнага інструменту — справа не новая. У суседняй Расіі апазіцыянеру Навальнаму нядаўна ўдалося вывесці на вуліцы тысячы абураных людзей, якія паглядзелі яго фільм «Ён вам не Дзімон». А ў Беларусі непалітычны відэаблогер Улад Бумага 5 чэрвеня сабраў у гандлёвым цэнтры «Galleria» ў Мінску тры тысячы сваіх прыхільнікаў. Сустрэчу нават прыйшлося спыніць, каб пазбегнуць цісканіны.

У Статкевіча пакуль больш за 300 падпісчыкаў і 1350 праглядаў апошняга роліку.



## Аляксей Янукевіч

**У мінскай сядзібе Партыі БНФ з-за камунальных запазычанасцяў адключанае святло.**

Кіраўніцтва партыі вырашыла часова закрыць офіс да выплаты пазыкаў, папярэдне — з 6 па 10 чэрвеня.

Па словах кіраўніка Партыі БНФ Аляксея Янукевіча, да складанай сітуацыі прывёў шэраг прычын: «Ацяпляльны сезон быў вельмі доўгі, і камунальны кошт узрос. Склалася так, што выдаткі на аплату камунальных былі большыя, чым звычайна. У звязку з гэтым у нас утварылася запазычанасць. Дасягнула запазычанасць такога ўзроўню, што адключылі нам святло, пакуль яна не будзе пагашаная. Я думаю, цягам тыдня, можа 10 дзён, мы гэтае пытанне вырашым, і офіс будзе паўнавартасна функцыянаваць надалей».

Па словах Янукевіча, каб падключыць памяшканне да святла, неабходна каля трох тысяч беларускіх рублёў. Цяпер, па яго словах, ідуць перамовы з магчымымі ахвярадаўцамі. Адкрыты дабрачынны рахунак у банкаўскай разліковай сістэме АРІП, праз які сябры і прыхільнікі партыі могуць пералічыць патрэбныя грошы. Як мяркуе Янукевіч, сітуацыя з запазычанасцю, хаця і вельмі непрыемная, аднак стратай офіса партыі не пагражае.

Затое ёсць падстава задумацца пра пытанне партыйных унёскаў.

## Уладзімір Макей

**Беларускае знешнепалітычнае ведамства абурылася выказваннямі прэзідэнта Літвы Далі Грыбаўскайтэ.**



Цікава, што ў сваіх прэтэнзіях беларускі бок (можа нават упершыню ў гісторыі беларускай дыпламатыі) спасылаецца на інфернальныя сілы.

5 чэрвеня ў інтэрв'ю тэлекампаніі LRT Грыбаўскайтэ сказала: «Эстонія, як і Латвія ці Польшча, вельмі важная, бо гэты рэгіён — усходняе памежжа NATO, таму выклікі і пагрозы — тыя самыя. Гэта знаходжанне на ўсход ад нас Расіі і Беларусі. Вядома, і мілітарызацыя, якую мы бачым у Калінінградзе, выкарыстанне тэрыторыі Беларусі для розных эксперыментаў і небяспечных гульняў, скіраваных супраць Захаду. Сярод іх — і будучыя вайсковыя манеўры», — адзначыла кіраўніца Літвы.

МЗС Беларусі выклікаў да сябе пасла Літоўскай Рэспублікі і запатрабаваў ад яго тлумачэнняў. Асабліва было адзначана, што выкарыстаная Грыбаўскайтэ лексіка, уключаючы словы «агрэсіўныя гульні», з'яўляецца абразай для нашай краіны, якая вядзе міралюбівую палітыку, а нашыя сяброўскія адносіны змацаваныя беларуска-літоўскім «Дагаворам аб добрасуседстве і супрацоўніцтве», які дзейнічае ўжо больш за 20 гадоў.

Як паведамляецца на сайце МЗС, «увага пасла Літвы была асабліва звернутая на тое, што ключавое слова ў гэтым дагаворы — добрасуседства, бо суседзяў, як вядома, не выбіраюць — іх дае Бог».

# Паралельная Беларусь: тэхналогіі ў дапамогу



Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Беларусы, што жывуць па-за дзяржавай, — людзі маладыя ды адукаваныя. Яны не проста свабодна валодаюць кампутарнымі тэхналогіямі — іх гнуткі розум знаходзіць магчымасці неафіцыйна зарабляць, скарыстоўваючы зусім новыя нішы, у якія яшчэ не зазірнула дзяржаўна-кантралюючае вока.**

Амаль год таму ў артыкуле «Эміграцыя ўнутры краіны» я пісаў пра тое, што многія беларусы знаходзяць уласную альтэрнатыву эміграцыі — яны застаюцца ў Беларусі, але пры тым максімальна парываюць свае сувязі з дзяржавай. Стараюцца не плаціць падаткі, не карыстацца дзяржаўнай медыцынай ды адукацыяй, не афармляць на сябе маёмасць і гэтак далей. Тое ж датычыць і эканамічнай сферы: такія грамадзяне пазбягаюць афіцыйнага працаўладкавання, імкнуцца мінімальна карыстацца паслугамі беларускіх банкаў, і пры тым выбудоўваюць між сабой эканамічныя адносіны па-за межамі афіцыйных.

Натуральна, за мінулы год сітуацыя кардынальна не змянілася — хіба што толькі такіх людзей, як я апісаў, стала яшчэ болей. Але пры тым я назіраю яшчэ адзін трэнд. Сучасныя тэхналогіі дапамагаюць такім людзям не проста існаваць незалежна ад нядобразычлівай дзяржавы, але і знаходзіць адзін аднаго, усталёўваць сталыя эканамічныя зносіны, якія дзяржава або не бачыць, або не можа кантраляваць. І гаворка ідзе ўжо не проста пра працу праз інтэрнэт на замежных заказчыкаў або пра набыццё патрэбных рэчаў, скажам, на «Куфары».

Тое, што мы назіраем сёння, — значна больш сур'ёзна. Балазе, большасць гэтых «новых беларусаў», што жывуць па-за дзяржавай, — людзі досыць маладыя ды адукаваныя. Яны не проста свабодна валодаюць кампутарнымі тэхналогіямі — іх гнуткі розум знаходзіць магчымасці неафіцыйна зарабляць, скарыстоўваючы зусім новыя нішы, у якія яшчэ не зазірнула дзяржаўнае кантралюючае вока.

У сённяшнім аглядзе — шэраг тэхналогій, рэсурсаў ды прыкладаў усяго таго, што дазваляе вольным у душы беларусам добра існаваць паралельна з дзяржавай.

## 1. Знайсці адзін аднаго

Сацыяльныя сеткі нездарма называюць новай формай існавання грамадства. Яны дазваляюць у тым ліку мецъ сур'ёзныя зносіны між сабой людзям, якія ніколі нават не бачылі адзін аднаго. І самаарганізоўвацца.

Вось, напрыклад, вядомы палітык Алесь Лагвінец (і не толькі ён) прапагандуе ў сацыяльнай сетцы Facebook хэштэг #набывайусваіх, выкарыстоўваючы які нацыянальна арыентаваныя людзі могуць наладжваць простыя эканамічныя стасункі наўпрост між сабой, па-за ўвагай дзяржавы.

Практычна тое ж самае робіць блогер Эдуард Пальчыс, які звярнуўся да сяброў у Facebook з пытаннем: хто з нацыянальна арыентаваных беларусаў займаецца бізнесам? З каментароў да гэтага допісу можна стварыць дошку аб'яў, дзе беларускамоўныя беларусы прапануюць свае паслугі — ад рамонту мабільнікаў і ноўтбукаў да аўтасервісу і вытворчасці гадзіннікаў. Беларускамоўныя і нацыянальна-арыентаваныя электрыкі і плітачнікі таксама не рэдкасць. Ёсць салоны прыгажосці, юрыдычныя паслугі, архітэктары і будаўнікі, а таксама псіхіятрычна-наркалагічная дапамога. Ёсць людзі, якія пякуць хлеб і торцікі, прадаюць яйкі з фермы і займаюцца рэпетытарствам.

## 2. Праца «для сваіх»

Для беларускамоўных ды жадаючых не залежаць ад дзяржавы існуе таксама адмысловая біржа працы — беларускамоўная дошка абвестак ад курсаў «Мова Нанова». Тут ёсць пошук і прапанова працы, тавары і паслугі — усё, што заўгодна. Кожны можа змясціць сваю абвестку абсалютна бясплатна. Дастаткова запоўніць простую форму. Вельмі спадзяюся, што гэты праект будзе развівацца.

## 3. Грошы па-за банкамі

Грашовыя разлікі, пераводы грошай, у тым ліку з адной краіны ў другую — адна з самых сур'ёзных сацыяльных функцый, якая татальна кантралюецца банкамі ды дзяржавай. Дакладней, кантралявалася да нядаўняга часу. Але некалькі гадоў таму дзякуючы інтэрнэту з'явіліся так званыя крыптавалюты. Сёння самая вядомая з іх — біткойн. Яны не належаць якой-небудзь дзяржаве ці банку, нікім не кантралююцца і дазваляюць цалкам ананімнае карыстанне. Да таго ж у нашай краіне яны ўвогуле не маюць ніякага афіцыйнага статусу.

Карацей — пакуль гэта ідэальны сродак пазадзяржаўных ды пазабанкаўскіх разлікаў. Але працаваць з «голымі» біткойнамі не надта проста — трэба шмат усяго ведаць. Таму ўвесь час ствараюцца новыя механізмы, якія, праз выкарыстанне біткойнаў,



Фота www.olimp.tech

**Сучасныя тэхналогіі дапамагаюць людзям не проста існаваць незалежна ад нядобразычлівай дзяржавы, але і знаходзіць адзін аднаго, усталёўваць сталыя эканамічныя зносіны, якія дзяржава або не бачыць, або не можа кантраляваць. І гаворка ідзе ўжо не проста пра працу праз інтэрнэт на замежных заказчыкаў**

робяць вельмі простымі грашовыя пераводы між людзьмі. Я апішу адзін такі механізм. Яго, дарэчы, ужо вельмі актыўна выкарыстоўваюць у суседняй Украіне — а значыць, ён мусіць хуткім часам з'явіцца і ў нас.

Гаворка ідзе пра міжнародную сетку P2P (peer-to-peer) пераводаў Abra. Яна дазваляе пры дапамозе смартфонаў перасылаць міжнародныя грашовыя пераводы з мінімальнымі камісіямі. Заснаваная ў 2014 годзе, каліфарнійская кампанія запусціла мабільнае прыкладанне Abra ў бэта-версіі для iOS і Android і атрымала фінансаванне на суму 14 мільёнаў долараў ад венчурных інвестараў. Abra выкарыстоўвае біткойны для ўзаемаразлікаў паміж удзельнікамі аперацый, але для кліентаў даступныя таксама звычайныя валюты: долары, еўра або грыўні (ва Украіне). Падобна таму, як Uber змяніў рынак таксі, Abra намерваецца пакончыць з манаполіяй банкаў і традыцыйных міжнародных сістэм грашовых пераводаў. Выгода для кліента ў тым, што не трэба скарыстоўвацца паслугамі банка, ёсць магчымасць выбару прымальнага тарыфу за выдачу або адпраўку пераводу.

Пры перасыланні 100 долараў з ЗША ва Украіну з удзелам традыцыйных сістэм-манапалістаў, кошт транзакцыі складзе прыкладна 12 долараў (у Беларусь — яшчэ даражэй). Да таго ж банкі — а значыць, і дзяржава, — будуць ведаць, што вы атрымалі грошы.

Выкарыстоўваючы Abra, адпраўнік папаўняе свой баланс у сістэме зручным яму чынам: пры дапамозе крэдытнай карты, банкаўскага рахунку або ў біткойнах. Далей ён адпраўляе атрымальніку неабходную суму на яго баланс у прыкладанні. Атрымальнік глядзіць інтэрактыўную мапу і выбірае сабе тэлера (так завецца ўдзельнік сістэмы, які атрымлівае і прымае грошы), які выдасць яму грошы, прасканаваўшы qr-код з экрана смартфона. Камісійны збор складае ад 1 да 4 працэнтаў.

Сёння грамадзяне Украіны пры дапамозе смартфонаў могуць не толькі перасылаць міжнародныя грашовыя пераводы з мінімальнымі камісіямі, у тым ліку, у біткойнах, але і самі выступаць у ролі тэлераў (касіраў, што абслугоўваюць кліентаў і атрымліваюць прыбытак ад іх транзакцый).

## 4. Прадпрымальніцтва новага тыпу

Галоўная прамысловая тэндэнцыя сённяшняга свету — распачаты пераход ад масавай вытворчасці любых тавараў на буйных фабрыках да лакальнай, «крафтавай», пад замову, індывідуальна і для невялікіх груп спажыўцоў. Гэта значыць тое, што раней было даступна толькі багатым людзям (індывідуальна вырабленыя рэчы), дзякуючы сучасным тэхналогіям і матэрыялам становіцца даступна большасці. І, насамрэч, гэтак жа сама гэтая лакальная вытворчасць становіцца даступнай для дробных, літаральна сямейных, прадпрымальнікаў. Заўважу, што ў дадзеным выпадку «прадпрымальніцтва» мы разумеем як магчымасць нешта вырабляць, пад замову або на продаж.

Безумоўна, тут на чале трэнду — 3D-друкаркі. Хатняя 3D-друкарка адкрывае найшырэйшыя магчымасці выкарыстання і ўжывання сваёй фантазіі, і паколькі самыя танныя мадэлі каштуюць ад 700 «новых» рублёў і вышэй, яны даступныя практычна кожнаму чалавеку з кампутарам.

На сучаснай 3D-друкарцы можна, запампаваўшы з інтэрнэту (або намаляваўшы самому) кампутарную 3D-мадэль, надрукаваць велізарную колькасць розных рэчаў — ад сувеніраў і біжутэрыі і да запчастак для аўтамабіляў. Прычым з кожным днём магчымасці 3D-друку пашыраюцца.

Але можна не друкаваць, а, скажам, шыць або вязаць. Сёння можна набыць сучасную вязальную машыну прыкладна па тым жа кошце, што і 3D-друкарку — і з падобнымі магчымасцямі. Гэта значыць машына падлучаецца да кампутара, загружаецца выкрайка — і наперад.

Трэба разумець: падобныя тэхналогіі ўвесь час удасканальваюцца і вострацца менавіта пад сямейных карыстальнікаў. Якія хай сабе вельмі павольна, але ўсё ж становяцца асновай эканомікі новага тыпу.

# Андрэй Шарэнда: «Страху няма, маўчаць мы не будзем»

**Андрэй Шарэнда і ягоная жонка Паліна Шарэнда-Панасюк падазраюцца ў абразе Аляксандра Лукашэнкі. Заведзеная крымінальная справа.**

**У размове з «Радыё Свабода» актывісты «Еўрапейскай Беларусі» заявілі, што рэпрэсіямі іх не запалохаць.**




**Андрэй Шарэнда з Палінай Шарэндай-Панасюк каля суда ў Брэсце. 3 сакавіка 2017 г.** Фота «Радыё Свабода»

Андрэй і Паліна — вядомыя ў Брэсце грамадска-палітычныя актывісты. Андрэй — актыўны ўдзельнік многіх акцый, гэтай вясной ён быў адным з лідараў пратэстаў недармеедаў у Брэсце. У часе адной з акцый Андрэй Шарэнда прымацоўваў каля ўваходу ў аблвыканкам плакат з надпісам «Баста!», за што на яго склалі адміністрацыйны пратакол і асудзілі.

## Разам вывешвалі расцяжку

Цяпер супраць Андрэя і Паліны заведзеная крымінальная справа за абразу Аляксандра Лукашэнкі. Быццам бы яны павесілі ў Брэсце расцяжку, на якой была напісаная абраза на адрас Лукашэнкі. Андрэй Шарэнда называе гэтыя абвінавачванні абсурднымі, ён кажа, што ў справе ёсць нестыкоўкі нават па даце гэтага ўчынку.

«Мы яшчэ не абвінавачаныя, нам выставілі падазрэнне, далі адпаведныя паперы. Спачатку, як ні дзіўна, выклікалі Паліну, далі ёй паперу аб завядзенні справы. Быццам, 17 лютага ў 15.00 вывесіла тую расцяжку. На наступны дзень мяне выклікалі і прад'явілі, што я вывешваў з ёй расцяжку 16 лютага. Мы асабліва не маем права выдаваць падрабязнасці справы, але тыя дзве паперы, якія нам далі, саму сутнасць гэтай справы яскрава паказваюць», — адзначыў ён.

Андрэй і Паліна расказалі, што супраць іх знайшоўся сведка, які пазнаў, што гэта быццам яны вывешвалі тую расцяжку.

«Ён блытаўся ў датах, не мог дакладна вуліцу назваць, у мяне склалася ўражанне, што яму паказалі нашы здымкі, і сказалі, што ты, маўляў, быў на той вуліцы і іх бачыў», — кажа Паліна.

«Стаўленне следчых да нас вельмі варожае. Мы не даём увогуле ніякіх паказанняў, спасылаемся на тое, што маем права не сведчыць супраць сябе. І ніякіх папераў не падпісваем, гэта іх вельмі раздражняе. Цалкам магчыма, што мяне ці Паліну могуць і нейтралізаваць перад нейкай наступнай акцыяй. Гэта такі своеасаблівы кручок, які можна скарыстаць у любы момант», — сказаў Андрэй.

## Падазраваны ў 2010-м

Андрэя Шарэнду даўно ведаюць у Брэсце як актыўнага апазіцыянера. Хлопец прыйшоў да грамадскай дзейнасці, далучыўшыся да «Маладога фронту», цяпер ён — актывіст «Еўрапейскай Беларусі».

Андрэй прымаў удзел у многіх масавых акцыях апазіцыі. Пасля разгону Плошчы ў часе выбараў 2010 года супраць яго была заведзеная справа за тое, што нібыта «біў вокны ў Доме ўраду». Той час, прыгадвае Андрэй, ён пераседзеў за мяжой, пакуль абвінавачанне з яго не знялі.

Болей крымінальных спраў супраць Андрэя Шарэнды не заводзілі, але шмат разоў яго судзілі паводле адміністрацыйных артыкулаў.

Пра Андрэя Шарэнду неяк здымалі сюжэты на БТ. Напрыканцы 2015 года дзяржаўнае тэлебачанне расказала, як у Брэсце выдзяляецца арэнднае жыллё і што тут «ад жорсткага прынцыпу, што жыллё атрымліваюць на роўных усе грамадзяне, улады не адышлі». Далей распавялі пра тое, што на ўручэнні ключоў ад кватэры, «толькі адзін з гэтых шчаслівчыкаў не пляскае ў ладкі з добрай нагоды — Андрэй Шарэнда, мясцовы актывіст апазіцыі. (...) 5 гадоў таму, снежаньскім вечарам, гэты чалавек адным з першых падняўся на прыступкі Дома ўраду. Там па дзвярах і па вокнах ён папляскаў ад душы».

«Зрабілі такую агітку, што быццам мы тут ледзь не бясплатна атрымалі кватэру», — смяецца Андрэй ды кажа, што «не чакаў іншага з боку афіцыйнага тэлебачання».

Андрэй Шарэнда распавёў, што здаўна адчувае пільную ўвагу з боку праваахоўнікаў: «Да акцыяў недармеедаў, якія ўспыхнулі гэтай вясной, у мяне было шмат затрыманняў. Можна сказаць, што перад кожнымі выбарамі ў нас тут сядзяць і сочаць каля пад'езду. Летась перад парламенцкімі выбарамі 3 дні сачылі, каб мы чаго кепскага не зрабілі. Тая самая карціна была і перад прэзідэнцкімі выбарамі. Яшчэ тады прыходзілі са службы апекі правяраць стан нашай сям'і».

«Бывае такое, што вешаюць на мяне ўсё што заўгодна. Год таму прыйшло судовае рашэнне, штраф з Івацэвічаў, што я там быццам нейкія налепкі ляпіў. І нейкі там мяне сведка бачыў. Я нават і прыгадаць не мог, калі я быў у тых Івацэвічах», — кажа Андрэй Шарэнда.

> **Сама справа на 100 адсоткаў палітычная. Таму што няма там ніякага складу злачынства, цалкам літаратурны тэкст. Не ведаю, якая там была экспертыза, што прызнала нейкую нецэнзуршчыну. Я не бачу там ніводнага нецэнзурнага слова**

## Пад пільным вокам сацслужбаў

У Андрэя і Паліны два сыны. Меншаму, Стаху, нядаўна споўніўся год, старэйшаму, Славаміру — 8 гадоў. Шарэнды кажуць, што іх сям'я знаходзіцца пад сістэматычным наглядам сацыяльных службаў.

«25 сакавіка мяне затрымалі ў Мінску, а Паліна проста выйшла з дому схадзіць у краму, і яе затрымалі. Зразумела, што ні на якую акцыю ні ў Мінску, ні ў Брэсце 25 ці 26 сакавіка яна не збіралася, але яны вырашылі перастрахавацца і проста затрымалі. Атрымалася, што дома засталіся дзеці. Малодшаму якраз 25 сакавіка споўніўся год. Старэйшаму сыну — 8, ён ужо самастойны, яму давялося сядзець аднаму каля гадзіны. Яшчэ добра, што паспелі патэлефанаваць знаёмаму, ён тут жыве недалёка, прыбег паглядзець дзяцей. А за ім паспела прыехаць мая маці. Як толькі яны прыехалі, праз 10 хвілін літаральна прыбылі міліцыянты і служба апекі правяраць, як тут дзеці. То бок фактычна, каб мая маці не паспела, то невядома, што было б. Знарок праваквалі, каб паказаць, што дзеці знаходзяцца адны, недагледжаныя», — расказаў Андрэй Шарэнда.

Паліна пільную ўвагу сацыяльных службаў да дзяцей тлумачыць толькі актыўнай пазіцыяй бацькоў: «Тут усё падведзена пад палітыку: калі бацькі маюць нейкую грамадскую пазіцыю, як мы бачым не толькі на прыкладзе нашай сям'і, то ўсе гэтыя дэкрэты, у тым ліку што тычацца дзяцей, таксама выкарыстоўваюцца. Гэта як метад рэпрэсіяў, ціску на сям'ю праз дзяцей».



**Андрэй Шарэнда з сынам Стахам.** Фота «Радыё Свабода»



**Міліцыянты спрабуюць вывесці Паліну з суду над яе мужам.** Фота «Радыё Свабода»

Андрэй распавёў, што аднойчы правяральшчыкі нават прызналіся, што іх паслалі з КДБ: «Гэтыя службы апекі разумеюць, што яны не маюць рацыі: калі ім кажаш, што гэта палітычная справа, яны проста апускаюць вочы. Іх проста накіроўваюць, іх таксама выкарыстоўваюць. Калі год таму прыходзілі, то не ўтойвалі, што іх накіраваў КДБ. Простым тэкстам сказалі».

## «Страху няма»

Андрэй Шарэнда мяркуе, што іх справа можа раскручвацца паводле розных варыянтаў: «Сама справа на 100 адсоткаў палітычная. Таму што няма там ніякага складу злачынства, цалкам літаратурны тэкст. Не ведаю, якая там была экспертыза, што прызнала нейкую нецэнзуршчыну. Я не бачу там ніводнага нецэнзурнага слова. Там проста гаворыцца, што Лукашэнка давёў краіну да ручкі», — кажа Андрэй.

«Справа палітычная, таму што з 300 тысяч насельніцтва гораду ўзяліся менавіта за апазіцыйных актывістаў. Вывесіць мог хто заўгодна, а менавіта нас чапаюць», — дадае Паліна.

Андрэй Шарэнда мяркуе, што крымінальная справа з'явілася як помста за тое, што ён быў у кіраўніцтве акцый недармеедаў як у Брэсце, так і ў Мінску, а таксама «за актыўную пазіцыю, якую адстойваю з жонкай ужо шмат гадоў».

«Ідзе мэтанакіраваны ціск на ўсіх, хто актыўна ўдзельнічаў у акцыях пратэсту. Тое самае з Наталляй Папковай, у іх да яе свой падыход, спрабуюць зламаць суткамі. А да нас вось такі. Зразумела, што справа ў нас сур'ёзная, пагражае рэальны тэрмін, да трох гадоў зняволення. Але пакуль мне з цяжкасцю верыцца, што тое, што называюць справай, можа дайсці да суду. Але не выключаю, што ці я, ці жонка, ці мы разам у любы момант можам апынуцца за кратамі», — кажа Андрэй Шарэнда.

Тым не менш Андрэй і Паліна кажуць, што турмой іх не напалохаеш. «Страху няма, і калі далей гэтая справа будзе раскручвацца, то маўчаць мы не будзем. Ёсць нейкія падпіскі аб невыдаванні, але калі справа палітычная, то яна проста падганяецца пад шаблон. Таму мы маўчаць не будзем», — кажа Андрэй.

Паліна дадае, што ўвогуле ніякіх падпісак аб невыдаванні даваць не збіраецца: «Таму што ўся гэтая сістэма — яна нелегітымная, незаконная. Фактычна, яны бандыты, якія самі сябе называюць рознымі камітэтамі, міліцыянтамі і гэтак далей. Даваць нейкія падпіскі злачынцам — гэта ніжэй за мой гонар. Не я злачынца, а яны злачынцы. Таму што гэта яны ўзурпавалі ўладу, яны душаць свабоду, яны гэта ўсё робяць».

www.svaboda.org



Каманда валанцёраў у Севераданецку

**На Галічыне шмат паказнога патрыятызму, пафасу. Сабраліся, апранулі вышыванкі, песні народныя паспявалі... На Данбасе людзі больш прамыя, пафасу няма. Няма расповедаў, маўляў, мы героі, перажылі акупацыю, выстаялі. Там не размаўляюць пра любоў да Украіны, а робяць для яе нешта канкрэтнае. Іх патрыятызм — гэта патрыятызм дзеі**

# Мост паміж Данбасам і Галічынай — рэальнасць ці міф?

Алесь КІРКЕВІЧ

**Станіслаў Бондар — 27-гадовы львавянін, працуе ў сферы турызму. Пасля Майдану і пачатку вайны на ўсходзе Украіны далучыўся да аднаго з валанцёрскіх рухаў ды ў 2016-м апынуўся ў Севераданецку. Што ён там убачыў, і ці ёсць сэнс будаваць масты там, дзе звычайна будуюць сцены?**

«Будуем Украіну разам» — не зусім стандартная гуманітарная ініцыятыва, бо разлічаная як на прамую дапамогу ў будаўнічых праектах у пацярпелых ад вайны рэгіёнах, так і на шчыльную камунікацыю паміж усходнікамі і заходнікамі, што мае стаць падмуркам для еднасці краіны.

Сваімі ўражаннямі ад рэаліяў Севераданецку, праблемаў рэгіёна ды ментальных штампаў у галовах мясцовых жыхароў Станіслаў Бондар пагадзіўся падзяліцца з чытачамі «Новага Часу».



**Станіслаў Бондар: «Мяне цешыць, калі ў Львоў прыязджаюць дзеці з Данбасу»**

### «Львавяне ніколі не былі на Данбасе, данечане — у Львове»

***— Перад вайной ты калі-небудзь быў на Данбасе?***

— Не, ніколі. Ёсць такая праблема камунікацыі: львавяне ніколі не былі на Данбасе, данечане — у Львове. Таму камунікацыя існавала на ўзроўні міфаў — людзі мала камунікавалі непасрэдна, але верылі таму, што казалі па ТБ і пісалі ў газетах. Нават зараз цягнік Марыупаль–Львоў едзе паўтара дні, гэта ненармальная сувязь унутры краіны. Калі ж ехаць на аўто, то сутыкаешся з вельмі дрэннай якасцю дарогаў.

***— Як ты трапіў у Севераданецк?***

— У 2016-м з'явілася магчымасць паехаць на праект «Будуем Украіну разам». Яго ідэя вельмі простая: дапамагаць будаваць ды аднаўляць будынкі. Гэта як дапамога пацярпелым ад вайны, так і звычайным сацыяльна неабароненым грамадзянам. Напрыклад, адразу па прыездзе я працаваў у жанчыны, інваліда-вазочніка — ёй мы банальна дапамагалі зрабіць пандус для заезду.

Сам праект працуе ад пачатку вызвалення Славянска і Краматорска ўкраінскімі войскамі. Але праект значна глыбейшы, чым проста прыехаць і нешта збудаваць. Ёсць і культурная частка: штодзень для нас арганізоўваліся экскурсіі, ад музея да звычайных гарадскіх прагулак па Севераданецку. У дадатак, канешне ж, пастаянная камунікацыя з мясцовымі.

***— У якіх умовах табе давялося жыць?***

— Мы жылі ў пажарнай частцы, дзе быў пункт для часова перасеЛеных асобаў. Адзін паверх для іх, адзін — для нас. Пераважна, першая катэгорыя складалася з пенсіянераў, якія ездзілі ва Украіну за пенсіямі. Яны пераходзілі зону размежавання і маршруткай ехалі ў Севераданецк, застаючыся на пару дзён. Дзяржава арганізавала месца для начоўкі, ежу. Пераважна, усе пенсіянеры жылі сярод міфаў: распавядалі нам пра натаўскія базы ва Украіне, «злых бандэраўцаў» і г.д., то бок пераказвалі гісторыі з расійскага тэлебачання.

### «Побач з вяселлем праязджаў украінскі танк...»

***— Што цябе найбольш уразіла?***

— Уразіла, што частка людзей верыць у адну праўду, другая частка — у кардынальна іншую. Усе нашы валанцёры, якія ездзілі па аб'ектах, сутыкаліся з гэтым. Ім расказвалі легенды, напрыклад, як ішло вяселле, а побач праязджаў украінскі танк, развярнуў гармату і стрэліў у бок маладых і гасцей... Мясцовыя жыхары там жывуць у альтэрнатыўнай рэальнасці і вераць у яе!

Разам з тым, уразіла і тое, што на Усходзе ёсць моладзь, гатовая нешта змяняць. Напрыклад, у Севераданецку зараз з'явілася арганізацыя «Пласт» (украінскі скаўцкі рух. — рэд.), якога ў тых краях ніколі не было. Мы з імі таксама супрацоўнічалі. Не ведаю, як зараз, але ў 2016-м севераданецкі «Пласт» меў больш моладзі, чым аналагічная суполка ў Хмяльніцкім, на Захадзе Украіны.

***— А што з рэлігійнай атмасферай?***

— Вельмі цікавы фактар: калі на Галічыне адчуваецца моцны ўплыў грэка-каталікоў, то на Данбасе, акрамя Праваслаўнай царквы Маскоўскага патрыярхату, сур'ёзныя пазіцыі маюць



Звычайны для Данбаса прамысловы ландшафт

неапратэстанцкія цэрквы. Вельмі шмат мясцовых валанцёраў былі евангельскімі вернікамі, і нават сярод «пластуноў» было багата дзяцей баптыстаў, пяцідзясятнікаў і інш. На ўсходзе гэтыя цэрквы вельмі развіліся, бо да Маскоўскага патрыярхату ўмоўныя вернікі збольшага належаць толькі намінальна.

Гэта вельмі цікавая з'ява, бо неапратэстанцкія цэрквы ў тым рэгіёне заўжды адмяжоўваліся ад палітыкі, маўляў, гэта іх не тычыцца. Але Майдан і вайна на ўсходзе Украіны вельмі змянілі іх стаўленне. Самі вернікі могуць гэтага не вызнаваць публічна, але ў рэальнасці яны сталі вельмі палітычна актыўнымі: і валанцёрства, і асветніцкая праца, і іншае.

## Данецкі патрыятызм: дзеянне без пафасу

*— Севераданецк — што гэта за горад?*

— Гэта вельмі спецыфічны горад, пабудаваны вакол агромністага заводу «Азот», які вырабляе мінеральныя ўгнаенні. На пачатку вайны завод спыніўся. Зараз гэта завод-прывід… Нас запрасілі на экскурсію ў іх музей. Уразіла сама экспазіцыя, якая распавядала хутчэй пра «Вялікую Айчынную вайну», чым пра ўгнаенні. Паўсюдна савецкія плакаты, лозунгі, расповеды пра гераізм савецкіх салдатаў… то бок рэчы, якія ніяк не звязаныя з заводам.

Уявіце сабе, завод стаіць, ягоны ўласнік — алігарх Фірташ, а нам падчас экскурсіі распавядаюць, які Фірташ добры і цудоўны… Чаму цудоўны? Бо выплачвае людзям нейкі адсотак ад колішняй зарплаты. Чаму добры? Бо падарыў Севераданецку, умоўна кажучы, тры тралейбусы. Стаўленне абсалютна рэлігійнае, не рацыянальнае! Як музей застаўся савецкім, так і стаўленне да начальніка. Мясцовыя дагэтуль вераць, што «Азот» пачне працаваць, не дапускаючы думкі, што ён нерэнтабельны, што гэта наўпрост 500 гектараў, напакаваных металаломам…

Вымалёўваецца такая карціна: з аднаго боку — актыўная моладзь, валанцёры, пратэстанты, «пластуны», з іншага — пенсіянеры, рабацягі з заводу і г.д. Апошнія, нават калі не спавядаюць догмы «рускага свету», але шануюць нейкага правадыра, кшталту Фірташа, думаюць больш пра «ўчора», чым пра «заўтра».

*— Ментальна патрыёты Украіны з Усходу і Захаду адрозніваюцца?*

— Так, вельмі. На Галічыне шмат паказнога патрыятызму, пафасу. Маўляў, сабраліся, апранулі вышыванкі, песні народныя паспявалі… На Данбасе людзі больш прамыя, патрыятычнага пафасу ні ў каго няма. Няма расповедаў, маўляў, мы героі, перажылі акупацыю, выстаялі. Там не размаўляюць пра любоў да Украіны, а робяць для яе нешта канкрэтнае. Іх патрыятызм — гэта патрыятызм дзеі.

Быў хлопец з Луганшчыны, які вырас у інтэрнаце, без вышэйшай адукацыі, бацька загінуў падчас крымінальных разборак у 1990-я — «на вайне», як там кажуць. Ён дапамагаў нам, аддаючы на гэта ўвесь свой вольны час. Дык вось, па вечарах мы абгаворвалі зробленае, размаўлялі пра планы, нейкія праекты. Ён слухаў і не мог адарвацца, бо не ведаў, што такое магчыма, што так можна думаць і жыць. Чалавек загарэўся, адкрыў для сябе новы кантынент. Пра што гэта кажа? Патэнцыял ёсць, але варыянты яго рэалізацыі да іх рэгіёну наўпрост не даходзілі, «глушылі» як радыёсувязь.

## «Калі ім зручна ў хаце размаўляць па-руску — няхай»

*— Наколькі сур'ёзна на Данбасе стаіць моўнае пытанне?*

— Зразумела, у побыце большасць мясцовых, якія былі з намі, былі рускамоўнымі. Але ім было цікава, яны спрабавалі з намі гутарыць па-ўкраінску. Моўнае пытанне як такое не падымалася — не было патрэбы яго падымаць. Мы разам працуем на аб'екце, кожны гаворыць на зручнай для яго мове, і ніхто нікому нічога не навязвае.

Нават у крамах я размаўляў па-ўкраінску, ніякага негатыву ў адказ не было. Быў выпадак, нам праводзілі экскурсію па-ўкраінску, дык побач праходзіла бабуля са словамі: «Прыехалі, фашысты…» Але мы ніяк на гэта не рэагавалі. Моладзь ведае ўкраінскую, можа ёй карыстацца, але калі ім зручна ў хаце размаўляць па-руску — хай размаўляюць. Мы жывём у той час, калі чалавеку ў прынцыпе нельга нешта навязаць.

*— А што наконт стаўлення да гісторыі, вайны, Бандэры?*

— Зразумела, большасць там трымаецца савецкага міфу пра мінулае. Чаму? Бо міф пра стварэнне ўсіх гэтых вялізных заводаў. Прыйшлі нямецкія захопнікі і ўсё знішчылі, а мужны савецкі народ усё адбудаваў. Вось і ўся гісторыя! Таму паветра там літаральна прасякнутае міфам Другой сусветнай вайны. Нас вадзіў гід, украінамоўны, але і ён паказваў адно помнікі вайны, месцы, звязаныя з вайной. З чаго б ні пачалася экскурсія — усё адно яна скончыцца Вялікай Айчыннай…

Цікава іншае: як людзі, якія жылі гадамі ў вялікім горадзе, дзе былі праблемы, але не меншыя і не большыя, чым у іншых рэгіёнах Украіны, у пэўны момант аказаліся гатовыя ўпусціць вайну ў свой дом, націснуць на спускавы гачок? Магчыма, чалавек, які ўвесь час кажа: «Вайна-вайна-вайна…», сам жа яе і кліча ў свой дом. Даклікаліся — вайна прыйшла.

## Інфармацыйны тэрор ды трэнер з ФСБ

*— Пра атмасферу напярэдадні агрэсіі вам распавядалі мясцовыя?*

— Працавалі з намі двое мясцовых, браты, якія займаліся спортам. Яны займаліся рукапашным боем разам з іншымі хлопцамі яшчэ перад вайной. У 2014-м, калі Майдан толькі скончыўся, іх трэнер, які меў дачыненне да КДБ у часы СССР, прывёў чалавека, свайго знаёмага. Гэты «знаёмы» нават не хаваў, што належыць да ФСБ, і прапанаваў правесці адмысловыя трэнінгі. Зразумела, усе пагадзіліся, ён жа спец, цікавая асоба!

У сакавіку 2014-га пад Севераданецкам для іх быў арганізаваны трэнінг па баявых дзеяннях ва ўмовах гораду. Хлопцам далі ў рукі трэніровачную зброю, паказалі тактыку, прыёмы. Калі трэнінгі падыходзілі да канца, стала зразумела, да чаго ўсё гэта ідзе. Пачаўся масавы інфармацыйны тэрор па сацыяльных сетках, маўляў, «бандэраўская армія» рухаецца на ўсход, каб усіх пазабіваць, недзе ўжо пачалі страляць, кагосьці забілі. Падобныя «навіны» пісалі «боты», але рабілі гэта настолькі прафесійна, што людзі верылі.

Так узнікла ідэя станавіцца на абарону горада ад міфічнага ворага. Спартоўцы, якія ўжо прайшлі апрацоўку, сталі ядром мясцовай «самаабароны». Пасля прыехалі яшчэ адмыслоўцы з Расіі, але зусім няшмат: яны ведалі, з кім працаваць, каго ўзначальваць. Далучаўся розны асацыяльны элемент — алкаголікі, беспрацоўныя і г.д. Усю гэтую масу рускія пачалі расстаўляць па блок-постах. У гэты момант акурат тыя два браты-спартоўцы і «саскочылі», але большасць іх сяброў пайшлі за сепаратыстамі.

*— Якая была матывацыя ў тых, хто ішоў за сепаратыстамі? Грошы? Кар'ера?*

— Не ведаю пра грошы, казаць не буду. Але з таго, што чуў, вялікая колькасць сапраўды шчыра пайшла «бараніць свой горад», знаходзячыся пад уплывам прапаганды. Людзям, якія перабывалі там падчас акупацыі, вельмі цяжка нават пасля вызвалення размаўляць аб гэтым, бо панавала паніка, іх свядомасцю маніпулявалі, а гэта цяжка прызнаць, нават калі праходзіць час.

## «Жыццё не склалася, а часу, каб глядзець ТБ, шмат…»

*— Пасля вызвалення міфы зруйнаваліся, калі ў рэальнасці ўкраінскае войска не пачало рабіць чыстак і ўсяго таго, чым пужалі СМІ?*

— Адны міфы ламаліся, але тут жа ствараліся іншыя. Я ўжо казаў пра легенду, аб расстраляным з танку вяселлі… Чым больш неймаверна, тым больш цікава, праўда ж? Хлопцу з Екацярынбурга, які працаваў з намі, на адным з аб'ектаў жанчынка пачала ўсе гэтыя жахі пераказваць. Ён кажа ёй: «Вы ж мне паўтараеце тое, што кажуць па Першым канале, гэта выдуманы сюжэт, гэта ўжо даведзена…» Тая злуецца: «Які там канал, мне гэта распавядала мая знаёмая!» То бок людзі завязлі ў міфах, паверыўшы, што сюжэты з расійскага тэлебачання мелі месца зусім побач, а яны самі ледзьве не былі іх сведкамі ці ўдзельнікамі.








Праца валанцёраў у Севераданецку

*— Чаму так адбываецца?*

— Я б мог падзяліць мясцовых на людзей занятых і не занятых. Мы жылі сярод пажарнікаў, усе яны стаялі на праўкраінскіх пазіцыях, адзін толькі быў супраць — на ўсю частку. Яны разумелі, што калі прыйдзе ДНР, не будзе ані працы, ані грошай. Я камунікаваў з прадстаўнікамі ДАІ, яны таксама цэняць сваю працу, не хочуць ДНР. Камунікаваў таксама з уласнікам хімічнага заводу, у якога вельмі добра пайшоў бізнес, бо ён пераарыентаваў яго на Захад. Мы на гэтым заводзе размаўлялі і з інжынерамі, і са звычайнымі рабочымі — ніхто не хоча ДНР, дэстабілізацыі і нявызначанасці, гэта зло для іх.

А ёсць людзі незанятыя, пенсіянеры ды асацыяльны элемент, якія не могуць сябе рэалізаваць. Жыццё не склалася, а часу шмат, каб тэлевізар глядзець дзень і ноч. Яны схільныя да таго, каб перакладаць віну за свае няўдачы на кагосьці — на Украіну, напрыклад. Гэтых людзей Расія выкарыстала ў першую чаргу.

## Застаўся верным Украіне, але жонка сышла да сепаратыстаў

*— Існуе міф пра тое, што ўся міліцыя ды СБУ на Данеччыне здрадзіла дзяржаве і пайшла да сепаратыстаў, ці праўда?*

— Было шмат міліцыянтаў, якія нам дапамагалі — суправаджалі, вазілі і г.д. Адзін з высокапастаўленых афіцэраў папярэдне быў начальнікам міліцыі аднаго з гарадоў, якія зараз знаходзяцца на акупаванай тэрыторыі. На пачатку акупацыі ён вывез адтуль усю табельную зброю, каб не дасталася баевікам. Але ў большасці ўсе гэтыя гісторыі праходзяць лініяй разлому па асабістым жыцці: ад яго сышла жонка, свядома засталася на тэрыторыі, занятай сепаратыстамі.

*— На твой погляд, як можна зруйнаваць міфы, якія падзяляюць Украіну і становяцца ўрадлівай глебай для сепаратызму?*

— Галоўны момант — гэта камунікацыя. Мяне цешыць, калі ў Львоў прыязджаюць дзеці з Данбасу — праз мяне асабіста ўжо прайшло багата такіх групаў. Тут яны адкрываюць для сябе іншы свет, дзе жывуць такія ж украінцы, як і яны, а не «фашысты» ці «людажэры». Цешыць, калі на Усход едуць украінскія дзіцячыя кніжкі, калі там іх можна прыдбаць у супермаркетах. Дарэчы, быў прыклад, яшчэ перад вайной, калі чалавек у Луганску адкрыў украінскую кнігарню — і бізнес пайшоў, людзі куплялі. Неўзабаве пачалася агрэсія, усё згарнулася. Але попыт быў, значыць, не ўсё так кепска.

Ва Украіне вельмі патрэбныя лаўкосты, каб з Усходу на Захад і наадварот можна было лётаць без праблем. Калі будзе наладжаная такая камунікацыя, людзі будуць больш сустракацца, міфы будуць руйнавацца, а варожасць і падазрэнні з часам знікнуць. Гэта быў бы моцны штуршок наперад. Пра старэйшае пакаленне трэба забыцца, на жаль. Працаваць з імі — гэта «сізіфава праца». Таму трэба брацца ў абарот моладзь — тых, за кім перспектыва і заўтрашні дзень.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### НІГЕРЫЯ. Біяфра вяртаецца?

У Нігерыі назіраецца рэнесанс інтарэсу да адраджэння Біяфры — самаабвешчанай і прызнанай толькі некаторымі суседзямі дзяржавы ў паўднёва-ўсходняй частцы Нігерыі, якая існавала ў 1967 — 1970 гадах. Пасля таго, як амаль 50 гадоў таму федэралы Нігерыі прымусілі сепаратыстаў капітуляваць, праект Біяфры ўзгадвалі толькі ў кантэксце гуманітарнай катастрофы. Праз тое, што нігерыйцы забаранілі ў рэгіёне працу Чырвонага крыжа, падчас зачысткі Біяфры былі знішчаны сотні тысяч чалавек (за ўвесь час вайны было забіта больш за 2,5 мільёна). Аднак сёння мясцовыя (у большасці хрысціяне) усё часцей мяркуюць, што Біяфру трэба адрадзіць, паколькі гэта — адзіны сродак супрацьстаяць наступу мусульманскай камуны, якая кантралюе цэнтральную ўладу. Непасрэднай падставай для росту сепаратысцкіх настрояў стала вызваленне з турмы Нхамдзі Кану, лідара руху «Indigenous People of Biafra» (IPOB). Кану вызвалілі з умовай, што ён будзе пазбягаць кантактаў з журналістамі. Аднак ён ужо праз пару тыдняў падзяліўся з прэсай ідэяй хуткага правядзення плебісцыту аб аднаўленні дзяржаўнасці Біяфры. Дарэчы, адна з фішак IPOB — тэма пра тое, што жыхары Біяфры нібыта з'яўляюцца згубленым каленам народу Ізраіля.

**Паводле французскай прэсы**

### УКРАІНА. Прыгоды львоўскага смецця

Роўна год таму ў Львове ўзнікла праблема збору смецця, якая з часам набыла нацыянальны маштаб. Пачалося з таго, што на гарадскім сметніку ўзнік пажар, у выніку якога загінулі чатыры чалавекі. Пачаўся скандал, падчас якога стала вядома, што эксплуатаваць сметнік нельга, і яго зачынілі. Узнікла пытанне ўтылізацыі мясцовых адкідаў: кожны дзень у Львове выкідаюць 600 тон смецця, а вывозіцца ўсяго 80 тон. Калі цэнтр яшчэ чысціць, то на ўскраінах горада выраслі горы смецця вышэй за чалавечы рост. У выніку львоўскае смецце дасюль развозяць па ўсёй краіне, што выклікае пратэсты мясцовых і рыкашэтам б'е па пазіцыях партыі «Самапоміч», якой кіруе мэр Львова Андрэй Садовы (дарэчы, да скандалу са смеццем яго разглядалі як перспектыўнага кандыдата ў прэзідэнты). Пакуль развязку гэтай гісторыі не вельмі лёгка спрагназаваць, бо будаўніцтва новага сметніка патрабуе грошай і часу. Аднак самае трывожнае, што пачынаецца летняя спёка, і смецце ператвараецца ў інфекцыйную міну. Некаторыя СМІ прагназуюць розныя эпідэміі і звяртаць увагу на тое, што стыхійныя сметнікі сталі інкубатарамі для пацукоў. Камунальнікі, у сваю чаргу, кажуць, што маюць эфектыўныя сродкі барацьбы з пацукамі, аднак і ўвядзенне надзвычайнага становішча не адмаўляюць.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Хто мае права на пантэон?

У Казахстане зацвердзілі палажэнне аб тых, хто варты заняць месца ў Нацыянальным пантэоне, які пабудуюць у Астане. Першым у гэтым спісе ідуць «прэзідэнты Рэспублікі Казахстан і члены іх сем'яў». Далей па спісе: прэм'ер-міністры, іх намеснікі, старшыні палат парламента і іх намеснікі, і гэтак далей. Акрамя прадстаўнікоў вертыкалі, у пантэоне могуць знайсці апошні прытулак лаўрэаты розных дзяржаўных прэмій. Спіс чыноўнікаў, якія вартыя пантэону, выклікаў шквал адкрытых кпінаў у сацсетках. «Мне спіс спадабаўся. Давайце ўжо пачнём хутчэй!» — піша адзін блогер. «Цяпер у прысудах чыноўнікаў з'явіцца пункт: пазбавіць права быць пахаваным у пантэоне», — жартуе іншы. Застаецца дадаць, што размовы пра будаўніцтва Нацыянальнага пантэона з'явіліся ў краіне ў канцы 2013 года. Яго папярэдні кошт быў вызначаны ў больш чым 250 мільёнаў долараў. Пакуль у афіцыйных паведамленнях няма нейкіх канкрэтных датаў пачатку і заканчэння будаўніцтва аб'екта.

**Паводле казахскай прэсы**

### ЗША. Трагедыя геральдычных жывёл

Універсітэт Маямі (ЗША) зрабіў цікавае даследаванне. Навукоўцы паспрабавалі высветліць, якія з жывёл, што выяўлены на дзяржаўных гербах, захаваліся і існуюць цяпер. Усяго на гербах дзяржаў прысутныя 189 жывёл. Аказалася, што 45 працэнтаў геральдычных жывёл (дакладней, віды, да якіх яны належаць) знаходзяцца ў стадыі імклівага вымірання. Яшчэ трацінa з іх ужо няма ў прыродзе. Больш за ўсё пацярпелі жывёлы з гербаў Афрыкі. У некаторых выпадках іх жывёлы-сімвалы захаваліся толькі ў заапарках, як, напрыклад, берберскі леў (выяўлены на гербах Тога, Гамбіі). Больш пашанцавала жывёлам з Паўднёвай Азіі і Паўночнай Амерыкі. Тут, дарэчы, удалося выратаваць ад вымірання той самы від арла, які выяўлены на гербе ЗША. Увогуле, толькі 16 працэнтам жывёл, якія сімвалізуюць нацыі, нічога не пагражае. Аўтары даследавання спадзяюцца, што іх праца прымусіць урады дзяржаў, гербы якіх аздобленыя жывёламі, больш клапаціцца пра фаўну.

**Паводле чэшскай прэсы**

# Спякотнае лета 1967-га

Алег НОВІКАЎ

**Пяцьдзясят гадоў таму свет упершыню сутыкнуўся з феноменам масавай моладзевай субкультуры — у Сан-Францыска пачаўся беспрэцэдэнтны па маштабах фестываль хіпі «Summer of Love» («Лета кахання»), які, хутчэй, нагадваў сацыяльную лабараторыю.**



Фота www.katsville.wordpress.com

Лета 1967-га было спякотным, прычым ва ўсіх, у тым ліку палітычным, сэнсах. Кітайская культурная рэвалюцыя, студэнцкія пратэсты ў ФРГ, вайсковы пераварот у Грэцыі, Шасцідзённая вайна, грамадзянская вайна ў Нігерыі і ў Емене... Гэта далёка не поўны спіс падзей, якія стваралі інфармацыйны фон лета 50-гадовай даўніны. Не дзіўна, што ў асяроддзі кансерватараў тады ўзнікала адчуванне надыходу апакаліпсісу. І не апошнім фактарам для такіх настрояў было рэха фестывалю «Summer of Love».

Дасюль сярод гісторыкаў няма канчатковага адказу на пытанне, як па ўсёй краіне пашыралася інфармацыя пра тое, што ў Сан-Францыска, у раёне Хейт-Эшберы створны камітэт «Лета кахання», які запланаваў нейкі буйны фестываль? Некаторыя лічаць, што ва ўсім вінаватыя дырэктары школаў. Пасля таго, як іх вучні збеглі ў Каліфорнію, настаўнікі кінуліся біць у званы. Істэрыку педагогаў ахвотна рэтранслявала жоўтая прэса, дзякуючы якой кожны тынэйджар хутка даведаўся пра крутую тусоўку ў Каліфорніі.

Як следства, каля ста тысяч маладых амерыканцаў абвясцілі сябе хіпі і рушылі да берагоў Ціхага акіяну. Увогуле, пра хіпі, або «дзяцей кветак», як яны сябе называлі, Амерыка чула і раней, аднак гэта былі маленькія артыстычныя ініцыятывы ў багемных кварталах. Гэтым разам хіпі сабраліся ў адным месцы. Атрымалася нешта феерычнае.

Славуты амерыканскі публіцыст Норман Майлер так апісваў прадстаўнікоў згаданай субкультуры: «Яны рухаліся лавінай, апранутыя як блазны. Сярод іх можна было ўбачыць і мудрагелістыя адзенні арабскіх шэйхаў, і ўпрыгожаныя залатымі галунамі ўніформы швейцараў. Былі тыя, хто выглядаў як іх продкі, якія скарылі Дзікі Захад, — у макасінах і замшавых куртках. Доўгія вусы надавалі ім зверскі выраз. Некаторыя былі апранутыя як індзейцы — з пер'ямі ў валасах. Многія апранулі белыя хламіды. Усё, што было вядома з літаратуры, коміксаў, серыялаў, міфалогіі, Бібліі — усе персанажы прысутнічалі тут. У бой ішло цэлае карнавальнае шэсце, маскарад адчайных!»

Па прыбыцці ў Сан-Францыска тусоўка заглыбілася ў геданізм — слухалі музыку, палілі траву, практыкавалі вольнае каханне, жылі ў камунах, танчылі, жыўцом слухалі легендарных музыкаў: Джэніс Джоплін або Джымі Хендрыкса. Не дзіўна, што ў некаторых узнікла адчуванне, што ў Хейт-Эшберы адбываецца нейкі маштабны сацыяльны эксперымент.

У «Summer of Love» быў і іншы бок. У выніку вялікай канцэнтрацыі маладых людзей і дэфіцыту належнай санітарыі пачаліся страўнікавыя атручванні. Хейт-Эшберы стаў велізарным рынкам наркотыкаў, які паліцыя была не ў стане закрыць ці кантраляваць.

Аднак уладу значна больш хваляваў палітычны падтэкст таго, што адбывалася. Кансерватыўная Амерыка пабачыла ў «Summer of Love» замах на амерыканскі лад жыцця. Сапраўды, хіпі ахвотна казалі, што іх філасофія адмаўляе канфармізм спажывецкага грамадства з яго матэрыяльным арыенцірам.

Не падабалася чыноўнікам і пацыфісцкая эстэтыка хіпі, што выглядала як вылік амерыканскаму мілітарызму, які на той час завяз у В'етнамскай вайне. Адной з забавак удзельнікаў «Summer of Love» было калектыўнае спаленне вайсковых білетаў. Дайшло да таго, што некаторыя правыя ЗША заявілі: вайсковыя правалы ў В'етнаме выклікалі хіпі, якія, маўляў, дэмаралізуюць тыл.

**У «Summer of Love» быў і іншы бок. У выніку вялікай канцэнтрацыі маладых людзей і дэфіцыту належнай санітарыі пачаліся страўнікавыя атручванні. Хейт-Эшберы стаў велізарным рынкам наркотыкаў, які паліцыя была не ў стане закрыць ці кантраляваць**

Цікава, што хіпі непакоілі і савецкі агітпроп, які баяўся, што мода на джынсы, фенечкі і доўгія валасы з'явіцца ў СССР, каб у мільёнаў падарваць маральны кодэкс маладога будаўніка камунізму.

Мода на субкультуру хіпі распаўсюджвалася, нібы цунамі. У ліпені ў амерыканскіх хіт-парадах першае месца заняў гурт «The Mamas & the Papas» з песняй «Be Sure to Wear Flowers in Your Hair», што лічыцца неафіцыйным гімнам хіпі. У той год было прададзена сем мільёнаў кружэлак гурта. У некаторых краінах Еўропы навіны з Сан-Францыска выклікалі спробы правесці свае аналагі «Summer of Love».

На дапамогу праціўнікам хіпі прыйшла прырода. Па набліжэнні восені і халадоў моладзь пачала паступова пакідаць Сан-Францыска. Мерапрыемства было афіцыйна закрытае 6 кастрычніка, падчас хэпенінгу «Пахаванне апошняга хіпі». Але на самай справе хіпі і не думалі паміраць. Наступныя некалькі гадоў сталі кульмінацыяй іх руху, якому без усялякай зброі ўдалося моцна змяніць Захад. Сёння некаторыя канцэпцыі хіпі, якія ў 1967-м падаваліся чыстай утопіяй, увайшлі ў менталітэт сучаснага заходняга чалавека. Самі падзеі лета 1967-га цяпер часта называюць нараджэннем новага амерыканскага народа.

Не дзіўна, што ў 2007-м муніцыпалітэт Сан-Францыска з нагоды 40-годдзя «Summer of Love» арганізаваў вялікі фестываль. На фінальны канцэрт сабралася каля 250 тысяч чалавек. І ў 2017-ты юбілейны год пра падзеі 1967-га таксама ўзгадаюць. Прычым, не толькі ў Злучаных Штатах. 1 ліпеня «Summer of Love» будуць адзначаць у Ліверпулі, на радзіме гурта «The Beatles», які 50 гадоў таму запісаў культавы сярод хіпі альбом: «Sgt Pepper's Lonely Hearts Club Band».

Дарэчы, гэтым разам урачыстасці будуць мець відавочна палітычны прысмак праз сур'ёзны канфлікт прагрэсіўнай часткі амерыканскага грамадства з адміністрацыяй Дональда Трампа. Левыя і ліберальныя СМІ ЗША ўжо заклікаюць новую генерацыю амерыканцаў вучыцца ў хіпі 1960-х, якія не толькі пратэставалі супраць тагачаснай адміністрацыі ў Белым Доме, але і фармулявалі альтэрнатыву існуючым парадкам.

# Венесуэла: інтэрвенцыя адкладаецца

Алег НОВІКАЎ

**Чым глыбейшым робіцца крызіс у Венесуэле, тым больш у міжнароднай прэсе заклікаў да гаспадара Белага Дому арганізаваць у гэту краіну вайсковую інтэрвенцыю.**



Фота www.bbc.com

Венесуэла — адзін з сусветных лідараў па вытворчасці серыялаў-меладрамаў. Таму, напэўна, не выпадкова, што цяперашні венесуэльскі ўнутрыпалітычны крызіс нагадвае фабулу мыльнай оперы, калі напружанасць нарастае ад серыі да серыі, а фіналу ўсё няма і няма.

У венесуэльскай драме, як і патрабуе закон жанру, пачаўся новы эпізод. Вярхоўны суд даў згоду кіраўніку краіны на правядзенне Канстытуцыйнай асамблеі, якая павінна ўнесці папраўкі ў Асноўны закон. Новая венесуэльская Канстытуцыя, па словах венесуэльскага правадыра Нікаласа Мадуры, дазволіць пераадолець крызіс, што цягнецца пасля перамогі апазіцыі на выбарах у парламент тры гады таму. З таго часу выканаўчая вертыкаль, якую кантралююць чавісты, і апазіцыя ў парламенце бясконца змагаюцца за кампетэнцыі. Усё гэта адбываецца на фоне татальнага дэфіцыту асноўных прадуктаў, гіперінфляцыі і грамадзянскай вайны (інакш не скажаш) на вуліцах, ахвярамі якой толькі за вясну сталі больш за 60 чалавек.

Аптымізм Мадуры наконт хуткага заканчэння цяперашняга хаосу апазіцыя не падзяляе. Дэмакратычная кааліцыя MUD, якая ўключае каля 20 партый, адмовілася ўдзельнічаць у працы Канстытуцыйнай асамблеі. На думку MUD, на выбарах дэлегатаў непазбежныя фальсіфікацыі, паколькі значная частка абіраецца ад арганізацый, якія непасрэдна кантралюе ўрадавая Аб'яднаная сацыялістычнай партыя. Праўда, апазіцыянеры гатовыя да кампрамісу ў выглядзе рэферэндуму, які павінен вызначыць, патрэбная ці не канстытуцыйная рэформа. Аднак падобны варыянт, у сваю чаргу, катэгарычна адпрэчвае Мадура.

На выхадзе замест дыялогу маецца новая ступень эскалацыі супрацьстаяння, на што ў сусветнай прэсе таксама рэагуюць заклікам да Белага дому і ААН — дасцаць у Венесуэлу экспедыцыйны корпус.

«Міжнародная супольнасць таксама нясе адказнасць за абарону народа Венесуэлы і павінна тэрмінова рэагаваць на яе эканамічны і гуманітарны крызіс», — піша «New York Times» у нумары за 30 мая. На думку выдання, асноўныя аргументы за інтэрвенцыю палягаюць у гуманітарнай сферы. Напрыклад, за час крызісу праз дэфіцыт прадуктаў кожны венесуэлец згубіў шэсць кілаграмаў вагі.

Трэба сказаць, што ідэя замены рэжыму ў Венесуэле за кошт замежных вайскоўцаў гучыць не першы раз. Яшчэ ў часы Чавеса казалі, што ў Вашынгтоне існуе план інтэрвенцыі, спасылаліся на словы Барака Абамы пра тое, што «Венесуэла ўяўляе пагрозу нацыянальным інтарэсам ЗША». Пасля таго, як да ўлады прыйшоў Нікалас Мадура, тэма знешнепалітычнага ўмяшання не знікае.

Яшчэ ў 2015-м прэс-служба Мадуры паведамляла пра тое, што на сустрэчах з дыпламатамі апазіцыянеры заклікаюць увесці ў краіну войскі Арганізацыі амерыканскіх дзяржаў (OAS) — рэгіянальнага аналага нашага СНД. Увесну 2017-га Мадура падзяліўся канфідэнцыйнай інфармацыяй нібыта пра сакрэтную размову паміж перуанскім прэзідэнтам Педра Кучынскім і Дональдам Трампам. Кучынскі, быццам бы, таксама прасіў Трампа падумаць пра вайсковы фармат навядзення парадку ў Венесуэле.

Гледзячы па ўсім, варыянт умяшання сапраўды не выключаецца. На пачатку красавіка пабачыла свет справаздача адмірала Курта Тыдда, які аказваецца за паўднёвы фланг абароны ЗША. У ёй гаворыцца, што «нарастаючы гуманітарны крызіс у Венесуэле можа патрабаваць адказных захадаў». Адначасова, скліканы ў красавіку саміт OAS прыняў вельмі жорсткую рэзалюцыю на адрас Каракаса. Падпісанты рэзалюцыі абяцалі Мадуры «прыняць ініцыятывы, якія павінны прымусіць Каракас гарантаваць функцыянаванне дэмакратычных інстытутаў».

Усё гэта, сапраўды, знешне нагадвае піяр-падрыхтоўку да нейкіх аперацый з боку трэціх краін адносна Венесуэлы. Аднак, нягледзячы на каскад матэрыялаў наконт неабходнасці ўмяшання ў венесуэльскі крызіс, пакуль такі сцэнар не разглядаецца.

Першая прычына — рызыка паўнавартаснай грамадзянскай вайны. Працяглае грамадзянскае супрацьстаянне ў Венесуэле сведчыць пра наяўнасць у Мадуры цвёрдага электарату. Гэта венесуэльцы, якія дзякуючы баліварскай рэвалюцыі значна палепшылі свой сацыяльны статус і гатовыя абараняць спадчыну Чавеса. Яны добра памятаюць, у якіх пячорных умовах жылі да прыходу Уга да ўлады. Нездарма Мадура ахвотна раздае зброю фармаванням, створаным з грамадскіх ініцыятываў, лаяльных да рэжыму.

Не гатовыя да рашучых крокаў, падаецца, і ў Вашынгтоне. Як піша выданне «Barrons», у Трампа вызначыліся са спісам асноўных ворагаў: Расія, Іран і Сірыя. Пра тое, што ўмяшанне ў Венесуэлу, як мінімум, адкладаецца, сведчыць і праект рэзалюцыі чарговага саміту OAS, які прайшоў на гэтым тыдні. У падрыхтаваных да сустрэчы паперах планавалася заклікаць Каракас да перамоваў з апазіцыяй, пасярэднікам у якіх хоча выступіць OAS.

Пра тое, што можа чакаць ад міжнароднай супольнасці, распавядае нямецкі доктар Аляксандра Бек, экс-валанцёр адной з гуманітарных арганізацый у Венесуэле:

— Тое, што ў блізкіх да Мадуры медыя любяць пісаць пра пагрозу інтэрвенцыі ЗША, гаворыць: улада сама зацікаўленая ў падобных плётках. Тэма інтэрвенцыі дазваляе гуляць на антыамерыканскіх забабонах, якія папулярныя не толькі ў Венесуэле, аднак паўсюль у Лацінскай Амерыцы. Таму ніякай пагрозы наўпроставай інтэрвенцыі з боку Злучаных Штатаў я пакуль не бачу. Як мінімум, спачатку ўздымуць пытанне гуманітарнай катастрофы, паспрабуюць знайсці падтрымку ў краінах рэгіёну. Тым больш, значна эфектыўней на сітуацыю ў краіне можна ўплываць за кошт штучнага пагаршэння сітуацыі з прадуктамі. Аднак нічога выключаць таксама нельга. Перш за ўсё, ніхто не ведае, чаго чакаць ад Канстытуцыйнай асамблеі. Не выключаны варыянт адтэрміноўкі прызначаных на наступны год выбараў прэзідэнта, што пагражае выбухам грамадзянскага супрацьстаяння, ігнараваць якое за мяжой будзе ўжо немагчыма.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Рышар Феран



Кіраўнік выбарчага штаба Эмануэля Макрона можа зменшыць шансы сваіх саратнікаў на парламенцкіх выбарах, першы тур якіх адбудзецца 11 чэрвеня.

Напярэдадні прэзідэнцкі рух «Наперад!» лідзіраваў з 30 працэнтамі галасоў, разлічваючы ў выніку на 335–355 з 570 месцаў у Нацыянальным сходзе. Перамогу руху тлумачаць перш за ўсё тым, што рэспубліканцы і сацыялісты — галоўныя апаненты макраністаў, — перажываюць раскол, і да таго ж не ведаюць, як рэагаваць на феномен Макрона. І тут стала вядома, што будучы кіраўніком страхавой кампаніі, Феран аформіў з рыэлтарскай фірмай сваёй грамадзянскай жонкі дарагі кантракт аб арэндзе. Самае кур'ёзнае, што скандал вакол аферы Ферана выбухнуў сінхронна таму, як новы міністр юстыцыі Франсуа Байру з вялікай помпай прадставіў у парламенце законапраект аб увядзенні маральных стандартаў, якіх надалей павінны будуць прытрымлівацца дэпутаты і чыноўнікі.

Зрэшты, на фоне скандалу вакол жонкі лідара рэспубліканцаў Франсуа Фіёна, выхадка Ферана выглядае не такой адыёзнай. Больш таго, магчыма, Феран дапамог Макрону. Скандал адцягвае ўвагу грамадства ад сакрэтнага прэзідэнцкага плана радыкальнай працоўнай рэформы, які 7 чэрвеня апублікавала газета «Liberation». Высвятляецца, што Макрон плануе зрабіць яшчэ больш ліберальным закон аб працы, які вясной-летам 2016 года выклікаў у краіне серыю масавых пратэстаў.

### Гурбангулы Бердымухамедаў



Кіраўнік Туркменістана ўмудрыўся знайсці ў таталітарнай Туркменіі тое, чаго, здавалася, тут даўно ўжо няма, а менавіта — апазіцыю.

Прыкладна за сто дзён да старту Азіяды — Азіяцкіх гульняў у закрытых памяшканнях па баявых мастацтвах — у краіне на падставе забеспячэння бяспекі пачаўся хапун. Новая хваля арыштаў закранула, перш за ўсё, прадпрымальнікаў і заможных грамадзян, якія мелі дачыненне да туркмена-турэцкіх адукацыйных установаў, якія фінансаваў турэцкі прапаведнік Фетхулах Гюлен. Паколькі Гюлена абвінавачваюць у арганізацыі спробы путчу ў Турцыі ў ліпені мінулага года, у Ашхабадзе, мабыць, вырашылі перастрахавацца і закрыць усе гюленаўскія цэнтры, а іх выкладчыкаў асудзіць.

Зараз у краіне ідуць рэйды супраць гюленістаў, якім пагражае да 25 гадоў турмы. Пры гэтым у іх шэрагі таксама запісалі прадстаўнікоў туркменскіх кланаў, якія традыцыйна варожа настроены да клану, з якога паходзіць Бердымухамедаў.

Між тым, прэса піша, што менавіта Азіяда і стварае ў краіне апазіцыйныя настроі. Улада актыўна рыхтуе дзяцей для ўдзелу у масавых мерапрыемствах падчас турніру, нягледзячы на 40–50 градусаў спякоты, што выклікае нараканні ў бацькоў. Уся краіна абмяркоўвае «подзвіг» аднаго з туркменаў, які ў прамым эфіры на нейкім ФМ-радыё мужна раскрытыкаваў такую практыку.

### Леа Варадкар



Прызначэнне 38-гадовага Леа Варадкара на пасаду прэм'ер-міністра Ірландыі стала сенсацыяй перш за ўсё праз яго нетрадыцыйную сексуальную арыентацыю. Палітык адкрыта называе сябе геем, што для каталіцкай краіны, дзе толькі ў 1970-я гады дазволілі скасаванне шлюбаў, гучыць вельмі прагрэсіўна.

Новы ірландскі прэм'ер — не толькі гей, але і першы прэм'ер, які не з'яўляецца на сто працэнтаў этнічным ірландцам. Яго бацька — доктар з Бамбею, які ў 1960 годзе прыехаў у Англію, дзе і знайшоў жонку-ірландку. Таму не дзіўна, што на гістарычнай радзіме бацькі прэм'ера таксама актыўна каментуюць поспех Леа, аднак рэакцыя тут трошкі іншая. Паколькі ў Індыі ў модзе нацыяналісты-кансерватары, уздым земляка-гея называюць ганьбай для індыйскай нацыі. Нацыяналістычная прэса патрабуе пазбавіць Варадкара права называць сябе індусам, а ў выпадку яго візіту ў краіну арыштаваць па артыкуле ў мясцовым Крымінальным кодэксе, які забараняе гомасексуалізм як злачынства супраць прыроды.

Нарэшце, некаторыя радыкалы, каментуючы навіны з Ірландыі, нават заклікаюць урад паскорыць навуковыя эксперыменты па стварэнні лекаў ад нетрадыцыйнай сексуальнай арыентацыі. У гэтым плане трэба канстатаваць мужнасць родных Леа Варадкара, якія жывуць у Індыі. Насуперак ксенафобскай кампаніі, яны публічна павіншавалі яго з перамогай.

# З чаго смяяліся ў Заходняй Беларусі?

Алесь КІРКЕВІЧ

**Першыя крокі міжваеннага мастацтва карыкатуры ў Заходняй Беларусі — слаба вывучаны кавалак нашай гісторыі. Калі навукоўцы і закраналі гэтую тэму, дык толькі з палітычнага боку — у рамках гісторыі «змагання беларусаў супраць польскага прыгнёту».**

Разам з тым, заходнебеларуская міжваенная карыкатура — гэта ўнікальная з'ява, зрэшты, як і ўсё культурнае жыццё рэгіёну ў 1920–1930-я гады: безліч друкаваных выданняў, творчасць Драздовіча і Сергіевіча, канцэнтрацыя нацыянальнага жыцця сярод віленскіх муроў ды іншае.

Дык што ж з карыкатурай? Гумарыстычныя графічныя малюнкі беларус з Наваградка альбо Гродна ў той час мог знайсці на старонках адпаведных часопісаў, назвы якіх, на жаль, таксама прызабытыя: «Авадзень», «Асва» ды легендарная «Маланка». Усе выданні былі беларускамоўнымі ды арыентаваліся на левую палітычную плынь: пасольскі клуб «Змаганне», «Грамаду», пасля — КПЗБ.



У „вялікім посьце".
Ужо даўно мінуў папелец, а старыя дзяды і бабкі штодзень посьцяць і кленчаць... Чаго ты сумны „хохлік"?



КРЫЗЫС — Дагалю спажыўца да канца, а гандаль з прамыслам і самі згалеюць...

## Побытавы антысемітызм ды кпіны са Станкевіча

У кожнага, пры гэтым, былі свае асаблівасці. Напрыклад, «Авадзень», які выдаваўся ў 1924–1929, а пазней яшчэ ў 1933-м, быў поўны побытавага гумару, сярод якога часцяком траплялісся палітычныя ноткі: крытыка падатковай палітыкі Польшчы альбо расійскіх манархістаў. Гэта своеасаблівая азбука тагачаснага побыту: тут і вясковыя абразкі, і віленскія экстэр'еры, і нават нязвыклыя для левага друку антысеміцкія акцэнты (героем карыкатураў часцяком выступае жыд, які адказвае пытаннем на пытанне).

Часопіс «Асва», які можна лічыць рэінкарнацыяй «Авадня» ў 1934 годзе, сёння б назвалі бруднай прапагандысцкай творчасцю. На старонках выдання ўжо яскрава бачны палітычны стрыжань, прычым высмейваюцца не столькі польскія ўлады, колькі прабеларускія правыя ды цэнтрысты. Улюбёная мішэнь для «Асвы» — ксёндз Адам Станкевіч, які выяўляўся тоўстым ксяндзом, які прыслугоўвае панам пры дай-нагодзе.

Зрэшты, мастацкі ўзровень саміх карыкатураў, што ў «Авадні», што ў «Асве», быў далёкім ад ідэалу. У першым выпадку мы бачым адно груба намаляваныя сілуэты, якія часам нагадваюць ужо сучасныя шаржы Адама Глобуса. У другім — прымітыўную копію з савецкай карыкатуры, дзе ўсё максімальна проста: ёсць тоўстыя людзі ў пінжаках з намаляванымі свастыкамі («буржуі») і падцягнутыя рабочыя са сталёвымі сківіцамі ды малаткамі ў руках («пралетарыят»).



ПАН ОБСТ (z «Dziennika Wileńsk.»): Вось цяжкія часы насталі для нас журналістаў: «Грамада» спыніла сваю дзейнасьць, беларускія паслы арыштаваны і вывезены аж да Вронэк, аб чым-жа цяпер пісаць і каго цяпер лаяць?!..

## Ветэран дывізіі Жалігоўскага і «вулічны баец»

Адзіным сапраўды знакавым сатырычным часопісам таго часу можна лічыць «Маланку», якая праіснавала ўсяго два з невялікім гады: з 1926-га па 1928-ы. Рэдкалегія часопіса — цвет заходнебеларускай інтэлігенцыі той эпохі — рэдактар Іван Маразовіч («Янка Маланка»), палітык Ігнат Дварчанін, мастак Язэп Драздовіч ды іншыя. Васьмістаронкавую «Маланку», якая выходзіла што два тыдні, чакалі, радкі з яе фельетонаў на Навагрудчыне, Слонімшчыне ды Віленшчыне ведалі на памяць, як вершы Багушэвіча ці ўрыўкі з Коласавай «Новай зямлі».

У рэдакцыю часопіса, якая месцілася на Гетманскай, 4 у Вільні, у верасні 1926-га прыйшоў высокі бландын са шчырымі вачыма ды зычным прыемным голасам, яшчэ мала каму вядомы мастак-графік Язэп Горыд, які, у хуткім часе, створыць непаўторны візуальны вобраз і легенду выдання. Тут варта спыніцца і зазірнуць у біяграфію гэтага чалавека. Горыд нарадзіўся ў 1896-м годзе ў Адэсе ў каталіцкай сям'і, вучыўся ў Марыупалі, пазней трапіў у расійскае войска, адтуль — у дывізію генерала Жалігоўскага, таго самага, які ўзяў Вільню, стварыўшы там на кароткі час «Сярэднюю Літву», дзяржаву — рэха Вялікага Княства.

Горыд паспеў павяваць у Бесарабіі ды Галічыне, атрымаў тры раненні. Пасля таго, як у 1921-м асеў у Вільні і далучыўся да беларускага руху, яго напорысты і рэзкі характар не надта змяніўся. Паводле ўспамінаў сучаснікаў, падчас дэманстрацый працоўных ён няраздка кідаўся ў бойкі з паліцыяй ды тагачаснымі праўладнымі «цітушкамі», баронячы сцяг: відаць, гады ў войску і павага да сімвалаў не прайшлі дарма.

## Ворагі — трапна, лёгка і без бруду

Адкуль у Горыда ўзяліся мастацкія навыкі? Магчыма, маляваць ён пачаў яшчэ ў акопах «Вялікай вайны», што не было рэдкасцю для тагачасных творцаў. Магчыма, вырашальнымі сталі некалькі курсаў графікі, праслуханых на правах вольнага слухача ў Віленскім універсітэце, куды Горыд паступіў у 1923-м годзе. Магчыма, сваю ролю адыграла знаёмства з экзальтаваным віленскім геніем Язэпам Драздовічам, які аб'ядноўваў вакол сябе мастакоў рознага гатунку. Магчыма — усё адразу.

Як бы там ні было, але менавіта Горыдавы карыкатуры сталі сімвалам не толькі «Маланкі», але і ўсёй сатырычнай графікі ў Заходняй Беларусі 1920-х гадоў. Калі прыгледзецца да яго карыкатураў, яскрава бачны новы ўзровень, якога дасягнуў жанр пад пяром Горыда. Вобразы Пілсудскага, Мусаліні, шавіністаў-«эндэкаў» альбо праўладных журналістаў прапісаныя трапна і лёгка, без бруду і прапагандысцкіх штампаў, якія чытаюцца ў «Асве» або «Авадні».

## Пілсудскі, працэс 56-ці ды бел-чырвона-белы сцяг

Напрыклад, карыкатура на Ёзэфа Пілсудскага ў вобразе «святога Мікалая», які вешае на навагоднюю елку падарункі — «голад», «падаткі», «канфіскацыі» і г.д. — смешная і па-мастацку годная аднachасна. Мы бачым, што маршалак Пілсудскі — адзіны гаспадар у краіне, яму прыслугоўвае гном, які цягне міфічны рог дабрабыту, на тле — ноч, а па небу пралятае ці тое камета, ці тое падаючая зорка. Карацей, палітыка на мяжы з казкай.

Іншая карыкатура, прысвечаная праўладнаму польскаму журналісту, які пакутуе ад беспрацоўя пасля разгрому палітычных структураў беларускага руху, цалкам перадае атмасферу рэдакцыі тых часоў. На сцяне — партрэт езуіта з малітоўна складзенымі рукамі, на заднім плане ўсмешлівая сакратарка піша нешта на друкарцы, на першым — сам адыёзны журналіст у канфедэратцы з сумам падпірае рукой галаву.

Малюнак «Перад працэсам Грамады» прысвечаны знакамітаму «Працэсу 56-ці», на якім судзілі беларускіх палітыкаў. Горыд асабіста прысутнічаў у судовай залі, таму перадаў на паперы не столькі рэдакцыйную замову, колькі свае ўражанні: тлум народу з урыўкамі эмоцыяў на тварах, спакойныя паліцыянты з закрытымі казыркамі вачыма, нарэшце, беларускія палітыкі з простымі, але выразнымі элементамі партрэтнага падабенства.

Апроч іншага, Горыд — яшчэ і рамантык. Па-іншаму нельга ўспрымаць яго пафасную інтэрпрэтацыю Пагоні — хлопец на белым кані з бел-чырвона-белым сцягам у руцэ ды мячом, які кідае маланкі ў ноч, што апанавала Беларусь. Альбо выяву чыстага і светлага «беларускага дому», зноў жа, пад бел-чырвона-белым сцягам, да якога з усіх бакоў бягуць апранутыя ў белае сяляне. Варта заўважыць, што ў іншых «левых» беларускіх выданнях нацыянальная сімволіка альбо не фігуруе, альбо выступае ў якасці атрыбута «беларускіх буржуазных нацыяналістаў», якія кленчаць перад «панамі».

## «Наш выдатны мастак»

Жыццё рэдакцыі тагачаснага заходнебеларускага выдання — не з простых. Нястача грошай, канфіскацыя нумароў, вобшукі паліцыі... Газеты то растуць як грыбы пасля дажджу, то зачыняюцца, то зноў аднаўляюць дзейнасць, але пад іншай назвай. Магчыма, Горыд стаміўся ад такога тэмпу, магчыма, адчуў, што яму гэта ўжо не цікава, але як бы там ні было, жнівеньскі нумар «Маланкі» 1928 года стаў для яго апошнім. Ён пераехаў у Парыж. За гэты час «Маланка» знайшла новага мастака — Міколу Васілеўскага, але яго карыкатуры ўжо больш бляклыя. Неўзабаве выданне спыніла сваё існаванне.

Горыд яшчэ вярнуўся ў Беларусь, каб пісаць алеем партрэты ды віленскія вулачкі, рабіць вялізны вітраж з Пагоняй для віленскага афіцэрскага казіно, афармляць кнігі Міхася Васілька, Рыгора Шырмы, Максіма Танка, заслужыўшы ад апошняга камплімент: «...наш выдатны мастак». Тое-сёе ён яшчэ рабіў для Таварыства беларускай школы, якое стала «апошняй лініяй акопаў» нацыянальнага руху, пасля разгрому беларускіх палітычных структураў. У другой палове 1930-х Горыд трапіў у Варшаву, а ў верасні 1939-га загінуў падчас бамбёжкі, маючы ўсяго 43 гады.

## У чаканні прэміі імя Горыда

Безумоўна, Язэп Горыд — значна больш аб'ёмны творца, якога нельга зацiснуць выключна ў рамкі газетнага карыкатурыста. Разам з тым, менавіта ён стаў адным з першых пачынальнікаў жанру ў выданнях Заходняй Беларусі, пераступіў праз прымітыў ды звыклае для тагачаснай прэсы мяшанне з брудам палітычных апанентаў, надаўшы сваёй сатыры непаўторныя мастацкія рысы.

Шкада, што сёння жанр палітычнай карыкатуры ў Беларусі, відаць, ужо перажыў час свайго росквіту. Малюнкі Алеся Сурава ў гродзенскай «Пагоні» 1990-х ды калажы на апошняй старонцы газеты «Имя» 2000-х паспелі стаць гісторыяй. Пры гэтым, газетная графіка ў свеце і не думала паміраць: прыклад скандальнага французскага «Шарлі Эбдо» — яскравае таму сведчанне. Магчыма, беларускую палітычную карыкатуру яшчэ чакае свой рэнесанс, а найлепшыя творцы яшчэ будуць уганараваныя прэміяй імя Язэпа Горыда.







# Танцы ў лесе пад дуду

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**У Мінску непадалёк ад станцыі метро «Барысаўскі тракт» штосераду ўвечары збіраюцца музыкі, танцоры ды спевакі, каб разам бавіць час.**



Сустрэчы маюць назву «Корч», якая старэйшая за саму лакацыю: да 2010-га вечарыны адбываліся на палянцы за Нацыянальнай бібліятэкай, сярод якой і тырчэў той самы корч, а праз два гады кудысьці падзеўся. Цяпер на месцы «Старога Карча» жылы комплекс.

А танцы на вольным паветры старэйшыя і за лакацыю, і за назву. Яны былі ініцыяваныя ў 2003-м дударамі, таму гэты інструмент традыцыйна застаецца на «Карчы» галоўным.

Юрась Панкевіч, заснавальнік «Карча», лідар гурта PAWA, распавядае:

— У 2003-м я зрабіў сваю першую дуду, і мы з музыкамі тады яшчэ гурта TESTAMENT, які цяпер PAWA, пайшлі граць у Купалаўскі парк, насупраць цырка. Хадзілі штосераду як на працу, таму вечарыны і сталі традыцыяй. Тады гэта звалася «Танцы пад святымі дрэвамі». Нехта прыдумаў, што грэцкія арэхі, якія там растуць, утвараюць браму ў іншы сусвет. Ідэя была менавіта ў тым, каб людзі танчылі пад дуду. Праз файр-шоў нас міліцыя адтуль пагнала, і мы пайшлі на Нямігу. На ўзгорку ля Свіслачы, каля вуліцы Зыбіцкай, некалькі разоў збіраліся. Адтуль нас зноў пагналі за файр. Потым ужо сталі збірацца на Усходзе, там я забараняў файр, хаця яго ўсё роўна рабілі. На месцы, дзе мы збіраліся, было паваленае дрэва, вакол — яблыневы сад. Дзяўчаты з тэатра «Гістрыён» — Юля Рэйзіс і Наста — прыдумалі назву «Корч».

Цяпер я ўжо мала граю на вечарынах, летась пару разоў за сезон быў на «Карчы». Жыву зараз у вёсцы, у Бянюнах, за 200 кіламетраў ад Мінска, таму складана ездзіць штосераду. Рады, што з'явілася новая генерацыя дудароў, трэба даваць дарогу маладым. А то яны пры мне, бывае, саромеюцца адрывацца. Думаю, як пагляджу, што скажу. Ці наадварот: «Ды хто гэта такі?»

Рэгулярныя танцавальныя вечарыны на вольным паветры пад дудовую музыку — унікальная мінская з'ява. Такога няма ні ў адным іншым горадзе Беларусі і суседніх краін, а можа, і свету.

Антось Бельскі, дудар, што часта грае на «Карчы», прыгадвае:

— Я хаджу на «Корч» з 2011 года — гэта першы сезон, калі вечарыны перамясціліся з пляцоўкі на «Усходзе» бліжэй да «Барысаўскага тракту». З гэтых сустрэч пачалося маё знаёмства з беларускімі (і не толькі) танцамі, дудой, беларускамоўнымі людзьмі. За гэты час на «Карчы» змянілася пакаленне танцораў і музыкаў. Ранейшыя наведнікі сталеюць, заводзяць сем'і, у іх нараджаюцца дзеці, яны больш часу прысвячаюць працы і менш забавам — у выніку з'яўляюцца на сустрэчах рэдка, а потым зусім перастаюць хадзіць. Цешыць, што на «Карчы» з'яўляюцца новыя танцоры і музыкі. Нехта даведваецца пра сустрэчы праз інтэрнэт, але большая частка, мяркую, трапляе сюды праз сяброў ды знаёмых.

Першыя сезоны «Корч» быў новай з'явай, якая прыцягвала ўсё больш і больш моладзі. У 2012–2013-м колькасць наведнікаў паступова стала скарачацца. Гэта было звязана як са зменай пакалення (ранейшыя танцоры пераставалі хадзіць, а новыя з'яўляліся ў меншай колькасці), так і з перамяшчэннем сустрэч на новую пляцоўку. У гэты час узнікла патрэба каардынацыі вечарын — змяшчэнне і рэклама абвестак у сацсетках, запрашэнні музыкаў і прыцягненне новых танцораў. Юрась Панкевіч, адзін з пачынальнікаў «Карчу», давераў гэту справу мне, бо сам ужо не мог часта наведваць вечарыны праз канцэртную дзейнасць і жыццё далёка ад Менска. Так з 2013-га я пачаў каардынаваць сустрэчы на «Карчы», а з 2014-га і граць на дудзе. Гэта дала плён: з 2014-га колькасць наведнікаў павялічваецца, прыходзяць як маладыя, так і дасведчаныя (радзей) музыкі.

«Корч» займае значнае месца ў дударскім руху. Гэта адкрытая пляцоўка для танцораў, музыкаў і ўсіх неабыякавых, якая дазваляе кожнаму пазнаёміцца з танцавальнай культурай Беларусі ды іншых краін, пачуць дуду, паспяваць, пагуляць у традыцыйныя гульні, пазнаёміцца з аднадумцамі, паразмаўляць па-беларуску ды проста добра і весела прабавіць час!»

Штосераду каля 19.00 на цяперашні «Корч» можна прыйсці паспяваць. Зараз у праграме — траецкія, купалкі, пазаабрадавыя песні, прыпеўкі. Выконваюцца ў беларускай традыцыйнай манеры. Звычайна завітвае некалькі мам з дзецьмі, таму самым малым удзельнікам ёсць з кім пагуляць.

Адна з мам і ў мінулым спявачка гурта «Ліліт» Дар'я Несцярэнка дзеліцца ўражаннямі:

— Я люблю народныя спевы. Ужо летась заўважыла, што ў лесе нешта цікавае адбываецца, але інфармацыяй не валодала, і неяк няёмка было спытаць. Для мяне «Корч» — гэта не проста баўленне часу, але і самаадукацыя. Праз песні я шмат чаго дазнаюся пра погляды, павер'і і звычаі нашых продкаў. Пакуль шукаеш тэксты, прачытаеш шмат інфармацыі пра абрады, дзе, што, як адбывалася. Для мяне вельмі істотна, каб мой сын ведаў культуру сваёй краіны. Калі ёсць магчымасць з дзяцінства далучыць дзіця да народнай музыкі, варта скарыстаць яе на 100 адсоткаў. Дуда яго ўжо зачаравала, што мяне не радаваць не можа!

Каля 19.30 — 20.00 на «Корч» прыходзяць музыкі і пачынаюцца танцы, а часам і гульні пад музыку. Далучацца і граць можна на чым заўгодна, але правіць баль дуда, на яе трэба арыентавацца. Танчаць на «Карчы» ў першую чаргу беларускія народныя і еўрапейскія сярэднявечныя танцы. Але часам можна пачуць эстонскія ды брэтонскія мелодыі, а таксама музыку іншых народаў Еўропы. Сярод танцораў — і зусім маладыя людзі, і карчоўскія «старажылы».

Вольга Янушкевіч, спявачка і танцорка, хадзіла на «Корч» нядоўга ў 2006-м, сёлета фактычна далучылася наноў:

— Калісьці ля метро «Усход» рос яблыневы сад, у якім з 2006-га гуртаваліся розныя нефармалы. Заўжды было вогнішча і шмат весялосці. Пасля я неяк перастала бываць на такіх тусоўках аж да 2017, калі наноў адкрыла для сябе «Корч». Пазнаёмілася з яго заўсёднікамі на фольк-вечарыне ў адной кавярні. Яны і запрасілі мяне на «Корч». Калі я наведала яго ўпершыню, мяне ўразіла месца правядзення. Неверагодна, што ў Мінску ў непасрэднай блізкасці да станцыі метро знаходзіцца такі вялікі кавалак лесу. Менавіта не лесапаркавая зона, а проста сасновы лес, з пратаптанымі сцежкамі і адносна свежым паветрам.

Людзі, што збіраюцца на «Карчы», самастойна знаходзяць і развучваюць песні і танцы, раздрукоўваюць тэксты. Такое згуртаванне прэтэндуе адначасова на працяг беларускай народнай музычнай і харэаграфічнай традыцыі і стварэнне новай, постфолькавай. Вялікае значэнне адыгрывае колькасць людзей. Спевы і танцы гуртом — непараўнальная па адчуваннях з самастойнай практыкай дзея. Нельга сказаць, што на «Карчы» дзейнічае ўстойлівы сфармаваны гурт выканаўцаў. Склад як дудароў, так і спевакоў, і танцораў можа змяняцца, хоць і ёсць людзі, якія наведваюць сустрэчы гадамі. Гэтая свабода далучэння ўсіх зацікаўленых надае «Карчу» пэўную стыхійнасць.

Яўген Барышнікаў, дудар, «ветэран» «Карча», падзяліўся сваімі развагамі:

— Вечарыны на «Карчы» — істотны этап не толькі ў развіцці дударскага руху, але і танцавальнага. Яны пачыналіся Юрасём Панкевічам хутчэй як працяг медывальных фестываляў з адпаведным рэпертуарам, вельмі эклектычным. Гралі ўсё — ад медывальных кампазіцый і фэнтэзі-фольку да танцаў народаў Еўропы: брэтонскіх, ірландскіх, латышскіх, якіх заўгодна. І беларускія мелодыі ў гэтым агульнаеўрапейскім кантэксце былі толькі адной з крыніц рэпертуару. Істотнай, але далёка не адзінай. То бок, «Корч» — гэта, у пэўным сэнсе, першабытны хаос, з пылу якога закручваліся галактыкі і нараджаліся планеты. Менавіта адтуль выкрышталізаваліся некаторыя групоўкі і кірункі, як сярод музыкаў, так і сярод танцораў.

Так, перад тым, як пачаць беларускія танцавальныя вечарыны ў кавярні «Жар-птушка», нябожчык Зміцер Сідаровіч пэўны час хадзіў на «Корч» і пераймаў вопыт, а потым прыводзіў на танцы і дырэктарку кавярні, каб прадэманстраваць ёй, як гэта выглядае. І яна пагадзілася ладзіць вечарыны ў сябе. Але прынцыповая розніца ў тым, што аўдыторыя Сідаровіча ў «Жар-птушцы» складалася з людзей, якія прыйшлі да народных танцаў праз агульнае захапленне ўсім беларускім, а аўдыторыя «Карча» прыйшла да танцаў беларускіх праз танцы сярэднявечныя, кельцкія і г.д.

Цікава, што дуды на «Карчы» заўсёды вялі рэй. Сёння мы бачым, што дуды адкрылі дарогу і іншым народным інструментам: скрыпкам, цымбалам, лірам і, канечне, гармонікам. Як кажа дудар Тодар Кашкурэвіч, «прабілі моладзевы снабізм».

Але, з іншага боку, паўтараецца сітуацыя, што мела месца сто гадоў таму: з-за абмежаванага дыяпазону, тэхнічных магчымасцяў, складанасці наладкі, дуды выціскаюцца скрыпкамі і гармонікамі. То бок гісторыя ідзе па спіралі. І ў гэтым адна з прычын, чаму сёння дуда-арыентаваны, «артадаксальны» ў гэтым сэнсе, «Корч» не настолькі папулярны сярод музыкаў і танцораў: рэпертуарна ён застаўся такім, якім быў, а людзям, якія даўно ў тэме, хочацца нейкага развіцця, чагосьці новага. Так што ў развіцці дударскага руху я назіраю трывалую фазу плато. Гэта цалкам нармальны этап. І толькі ад нас залежыць, ці будуць новыя ўздымы і прарывы.

**Фота Алены Ляшкевіч**

# Нам патрэбна ваша падтрымка!

**Да канца падпісной кампаніі на II паўгоддзе засталося толькі два тыдні!**

Шаноўныя чытачы, дзесяць гадоў большасць з вас атрымлівала «Новы Час» бясплатна. У нас была такая магчымасць, і мы з задавальненнем дзяліліся з вамі тым лепшым, што маглі даць: родным словам і цікавымі артыкуламі.

На жаль, цяпер мы вымушаны спыніць такую практыку. З ліпеня газета «Новы Час» па Беларусі будзе распаўсюджвацца толькі па падпісцы. А ў Мінску і Мінскай вобласці — па падпісцы праз РУП «Белпошта» і праз шапікі РУП «Белсаюздрук».

Падпісацца на «Новы Час» можна: у аддзяленнях паштовай сувязі; праз сістэму «Інтэрнэт-падпіска»; пры дапамозе плацёжна-даведачных тэрміналаў. Таксама можна зрабіць заяўку ў любым аддзяленні паштовай сувязі на афармленне падпіскі паштальёнам у вас дома на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Падпісны індэкс «Новага Часу» — 63279. Кошт падпіскі: на 1 месяц — 2 рублі 43 капейкі, на адзін квартал — 7 рублёў 29 капеек, на II паўгоддзе — 14 рублёў 58 капеек.

Для таго, каб паспець падпісацца на II паўгоддзе, засталося толькі два тыдні. А афармленне і аплата падпіскі праз сістэму «Інтэрнэт-падпіска» на ліпень-снежань 2017 года праводзіцца толькі да 22 чэрвеня.

Мы ведаем, што зараз у кожнага з вас не лепшыя часы, і нават некалькі рублёў з сямейнага бюджэту выдаткаваць цяжка. Аднак мы звяртаемся да вас, нашы самыя лепшыя і адданыя чытачы, бо без вас «Новы Час» не здолее выжыць. Мы не збіраем грошы на існаванне, мы проста просім вам падпісацца на вашу, спадзяемся, любімую газету.

Падпішыцеся самі, прапануйце падпісацца суседзям і сябрам — і разам з вамі мы адкрыем новую старонку ў жыцці газеты. Старонку салідарнасці і сяброўскай падтрымкі.

Са свайго боку абяцаем і надалей радаваць вас змястоўнымі палітычнымі і эканамічнымі матэрыяламі. Расказваць пра жыццё розных рэгіёнаў і актуальныя праблемы грамадства. Паведамляць пра падзеі блізкага і далёкага замежжа. А таксама заўсёды знаёміць з цікавымі старонкамі нашай гісторыі і выбітнымі асобамі Беларусі. Карацей, рабіць штотыдзень нашу працу сумленна і аддана. Як і ўсе дзесяць гадоў дагэтуль.

А таксама, як і дагэтуль, штомесяц радаваць вас сталым дадаткам «Літаратурная Беларусь», які працягне знаёміць вас з найлепшымі ўзорамі беларускай прозы і паэзіі, літаратурнай крытыкай і сучаснымі перакладамі.

Мы верым, што ўвесь гэты час недарэмна неслі да вас тое лепшае, што прапаноўвалі нашы аўтары. Што за гэты час паспелі сфармаваць у вас звычку да змястоўнага і вартага чытва. Што вы заўсёды чакалі чарговы нумар нашай з вамі газеты. Што трымалі ў руках «Новы Час» з задавальненнем і заўсёды знаходзілі для сябе, што пачытаць.

Мы спадзяемся, што ў гэты складаны для ўсіх час вы не адмовіцеся ад «Новага Часу», бо верыце, што разам мы дачакаемся лепшага.

З гэтай верай у лепшае мы чакаем вас, нашы будучыя падпісчыкі! А таксама паведамляем, што сярод першых 500 падпісчыкаў будуць разыграныя спецыяльныя падарункі ад рэдакцыі.

Дзякуй, што былі з намі ўсе гэтыя гады! Дзякуй, што будзеце і далей!

# Ад паганскага капішча да скульптур сацрэалізму

**У межах года пешаходных аўтарскіх вандровак працягваюцца шпацыры са знаўцам гісторыі Мінска Іванам Сацукевічам.**

Сёлетняя серыя пешаходных экскурсій прысвечаная 950-годдзю Мінска. Шпацыры адбываюцца штоаўторак увечары.

13 чэрвеня арганізатары запрашаюць прайсціся «Па Ляхаўцы ды Кашарах». Гэта вандроўка па былым індустрыяльна-вайскова-спартовым раёне горада. Экскурсійныя аб'екты — старыя заводы Ляхаўкі, стадыён «Дынама», помнік Кіраву і месца, дзе 16 ліпеня 1944 года адбыўся парад партызан, а пазней былі павешаны нацысцкія злачынцы. Удзельнікі шпацыру таксама даведаюцца пра апошняе паганскае капішча Мінска і яго жрацоў.





**Фота з facebook Івана Сацукевіча**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №544

Падпісана да друку 09.06.2017. 8.00.
Наклад 3000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.